*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 18 (506)** **2 ТРАЎНЯ 2001 г.**

# Звон з Нагасакі звоніць па ахвярах Чарнобыля



26 красавіка званы кафедральнага сабора Іракамі ў Нагасакі (Японія) званілі ў памяць аб усіх ахвярах аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якая адбылася 15 гадоў таму.

Копія звана Анёл, з храма Іракамі, была устаноўлена ў Менску ля касцёла св. Сымона і св. Алены. У 12.00 26 красавіка менскі звон пераняў эстафету ад Нагасакі.

***На здымку: 26 красавіка каля Чырвонага Касцёла.***

МАЗЫРСКІ гарадскі ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ



МОЗЫРСКИЙ городской ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

05.03.2001 № 267

**Спадару Трусаву Алегу,**
**старшыні ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"**

Паважаны спадар Трусаў Алег!

Адказваючы на ваш ліст ад 14.02.2001 г. па факту парушэння права выбару мовы адукацыі, які быццам меў месца ў пачатку навучальнага года ў г. Мазыры, паведамляем наступнае.

У г. Мазыры выпрацавана сістэма па выхаванню нацыянальнай самасвядомасці падрастаючага пакалення і гэтаму пытанню ўдзяляецца вялікая ўвага. У гарадскім маштабе праводзяцца фальклорныя святы, пастаянна вядзецца краязнаўчая работа па мясцовым матэрыяле. Гімназія № 1 носіць імя Янкі Купалы, у ёй створаны цудоўны музей, прысвечаны гэтаму беларускмму песняру. У многіх іншых школах горада дзейнічаюць і вядуць вялікую прапагандысцкую і асветніцкую работу школьныя музеі этнаграфіі і фальклору (АШ №13, 1, 2, 5, 7).

На высокім тэарэтычным і метадычным узроўні праводзяцца ўрокі, факультатывы, курсы па выбару, гутаркі па інтарэсах на роднай мове. Усе яны прывіваюць любоў да беларускай нацыянальнай культуры, роднай мовы. Не выпадкова вучні г. Мазыра на працягу многіх гадоў з'яўляюцца прызёрамі абласной і Рэспубліканскай алімпіяд па беларускай мове. Ужо пачынаючы з першага класа, дзеці сістэматычна вывучаюць беларускую мову. У сярэдніх і старшых класах гэта работа працягваецца. Настаўнікі г. Мазыра прапагандуюць вопыт сваёй работы па адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры і роднай мовы ў друкаваных выданнях РБ. У "Настаўніцкай газеце", у часопісах "Роднае слова", "Народная асвета" (настаўнікі-беларусаведы Фіцнер В. В., Бабруйка В. І., Протас Н.П., Макарчук В.І. і іншыя). У школе рэгулярна праводзяцца святы, літаратурныя вечары, прысвечаныя беларускім пісьменнікам (М. Багдановічу, А. Куляшову, У. Караткевічу, І. Мележу), дні беларускай культуры, гасцёўкі, прэзентацыі. У маі бягучага года ў горадзе пройдуць мерапрыемствы па ўшанаванні памяці беларускага пісьменніка Б. Сачанкі.

У горадзе створана сістэма арганізацыі работ па навучанню роднай мове. Гэта дзейнасць пачынаецца з дзіцячага садка. Бацькам растлумачваецца іх права ў выбары мовы навучання для сваіх дзяцей. Затым прапаноўваецца анкета з мэтай выяўлення жаданняў бацькоў па выбары мовы навучання. Так у 1999/2000 н. г. на аснове гэтай праведзенай работы быў выяўлены (па анкетах бацькоў) 1 чалавек Барабанава Яніна Андрэеўна, 1994 г.н., якая пражывае ў раёне АШ № 14.

Не маючы магчымасці адкрыць падрыхтоўчы клас для навучання на роднай мове аднаго дзіцяці, адміністрацыя школы прапанавала бацькам гэтай дзяўчынкі дыферэнцыраваны кампанент ці індывідуальнае навучанне. Ад дадзенай прапановы бацькі адмовіліся. Пытанне адкрыцця падрыхтоўчых класаў з беларускай мовай навучання знаходзіцца на пастаянным кантролі аддзела адукацыі. У 2000/2001 н. г. пасля сур'ёзнай тлумачальнай работы пажадалі навучаць сваіх дзяцей на беларускай мове 9 бацькоў (уключаючы Барабанаву). У тым выпадку, калі гэтыя бацькі пацвердзяць намер навучаць сваіх дзяцей на беларускай мове перад пачаткам навучальнага года, аддзел адукацыі г. Мазыра адкрые падрыхтоўчы клас з навучаннем на роднай мове ў адной са школ горада (з дазволу абласнога Упраўлення адукацыі).

З павагай

*Старшыня Мазырскага гарвыканкама*
*У. М. Патупчык.*

Мазырскае ГА ТБМ заклікае да бацькоўскай актыўнасці !

# Нашым дзецям – беларускамоўны клас сёлета!

Шаноўныя бацькі, калі Вы маеце намер даць сваім дзеткам беларускамоўную адукацыю і выхаванне – згуртуймася з мэтай стварэння першага беларускамоўнага класа.

Тэлефануйце нам:
37392 або 37554 Алена, Анатоль.

# Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Беларушчыну даўно выпхнулі на ролю нейкай абрадавай мовы. У практыцы ўлады апроч таго яна сталася мовай дыверсантаў і шпіёнаў, якіх хапаюць на гэты просты беларускі кручок эміграцыйныя асяродкі.

Ненавідзяць у Мінску беларускую мову – і ўсё. Бялеюць ад шаленства.

Беларуская мова прызнаецца як мова літаратурнага занятку, для хлеба. Нічога больш, ніякая гэта не свецкая мова і не "вяршыня мары".

**Сакрат Яновіч**
**"Наша свабода", 2.04.2001 г.**

*"Мы беларусы, і хочам, каб наша дзіця размаўляла на беларускай мове і ведала беларускую мову".*
***Наша ніва 26.03.2001 г.***
***"Свята дзяцей" Зміцер Бартосік.***

Ён да гэтага часу разглядаў беларускую мову як нейкага блуднага сына, адшчапенца, каторы доўгі час бадзяўся на чужыне і папсаваў сваю мову.

З успамінаў Язэпа Лёсіка пра Яўхіма Карскага.
**Наша Ніва, 26.03.2001 г.**
**Уладзімір Содаль "Хацелася, але і калолася".**

Але размаўляць беларусы ў XXII ст. будуць найчасцей па-ангельску. "А на халеру вучыць беларускую мову, калі ўвесь сьвет размаўляе па-ангельску" – прыкладна так выкажацца тыповы беларус тых часоў пра родную мову.

**Юлія Андрэева, "Беларусь праз 100 гадоў",**
**Наша Ніва, 2.04.2001 г.**

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня



## Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ

| | |
|---|---|
| Сільнова Людміла (Менск) | – 3000 р. |
| Суполка "Рэфармацыя" (Менск) | – 50$ |
| Кановіч Алесь (Менск) | – 5000 р. |
| Нагін Пввел (Менск) | – 1000 р. |
| Сям'я Адамовічаў (Чэрвень) | – 3000 р. |
| 2 хлопцы з Беразіно | – 2000 р. |
| Мазырская арганізацыя ТБМ | – 17000 р. |
| Валошчык Мікола (Белаазёрск) | -- 3100 р. |
| Петруковіч Васіль (Менск) | – 4000 р. |
| Хрэноўскі Анатоль | – 22440 р. |
| Халько Мікалай | -- 20 $ |
| Фактаровіч (Менск) | -- 250 р. |
| Сазонаў Анатоль (Слуцк) | -- 1000 р. |
| Шкірманкоў Фелікс (Слаўгарад) | – 2000 р. |
| Волчак Андрэй | – 11920 р. |
| Станішэўскі Віталь (Менск) | – 500 р. |
| Мілінкевіч Алесь (Горадня) | – 5000 р. |
| Домаш Сямён (Горадня) | – 5000 р. |

# Да ведама арганізацый ТБМ

Сакратарыят ТБМ яшчэ раз даводзіць да ведама арганізацый і суполак ТБМ, што вы маеце магчымасць падпісаць усе бібліятэкі вашых раёнаў на газету ТБМ "Наша слова" на 3-ці квартал 2001 года за кошт ТБМ. Для гэтага трэба накіраваць запоўненыя карткі з адрасамі бібліятэк у сядзібу ТБМ: 220005, Менск, Румянцава, 13.

Вы маеце яшчэ 10 дзён.



№ 18 (506) 2 ТРАЎНЯ 2001 г. НАША СЛОВА

# Да справаздачы Акадэмічнай арганізацыі ТБМ за перыяд 03. 1999 – 03.2001 гг.

Год таму пайшоў у вечнасць наш верны сябар, актыўнейшы Адраджэнец, намеснік старшыні Акадэмічнай рады Таварыства беларускай мовы, вучань славутага Барыса Кіта – арганізатара амерыканскай астранаўтыкі, - таленавіты навуковец, загаднік лабараторыі Інстытута тэхнічнай кібернэтыкі НАН Беларусі, доктар тэхнічных навук Алесь Раковіч.

На вялікі жаль, за справаздачны перыяд адбывалося далейшае скарачэнне агульнай колькасці сяброў ТБМ і цэлых структурных адзінак арганізацыі. Прычынамі гэтага з'яўляюцца вымушанае (нікчэмна нізкая аплата працы) звальненне навукоўцаў і адсутнасць беларускамоўнай запатрабаванасці, а таксама боязь дыскрымінацыі па моўнай прыкмеце. У выніку ў бальшыні інстытутаў НАН Беларусі засталіся выключна нацыянальныя патрыёты, самаадданыя абаронцы беларускай мовы. Адышлі ад спраў таварыства, за рэдкім выключэннем (Цэнтральны батанічны сад), многія кіраўнікі ўстаноў і структурных падраздзяленняў. Негатыўны прыклад адносін да важнейшай нацыянальнай каштоўнасці – мовы падаваў Прэзідыюм НАН на чале з акадэмікам А. Вайтовічам. Дзеля справядлівасці трэба заўважыць тэндэнцыю росту прыхільнасці шаноўнага акадэміка да роднай мовы.

Менавіта Прэзідыюм тарпедуе афіцыйную рэгістрацыю Акадэмічнай арганізацыі ТБМ – не дае юрыдычнага адрасу. Адрас магчымы пры ўмове гарантыяў аплаты за арэнду памяшкання. Але як мы можам арэндаваць памяшканне за сяброўскія складкі ва ўмовах жабрацкага жыцця навукоўцаў? Такім, вось, чынам дзяржавай усё робіцца дзеля знішчэння няўгодных грамадскіх арганізацыяў. Нягледзячы на антыспрыянне, наша арганізацыя існуе і будзе існаваць. Яна мае фіксаванае сяброўства, уласныя пячатку і штапм.

На сёння дзейнічаюць 14 першасных суполак з агульнай колькасцю фіксаваных сяброў 112. Найбольшыя і актыўныя суполкі застаюцца ў Інстытуце тэхнічнай кібернэтыкі (26 чал., старшыня Алесь Раковіч – да лютага 2000 г., пасля – Мікола Савік) і Інстытуце эксперыментальнай батанікі імя В.Купрэвіча (23 чал., ст.Міхась Сак), крыху меншыя ў Цэнтральным батанічным садзе (ст. Ігар Гарановіч), у Інстытутах гісторыі (ст. Мікола Крывальцэвіч, з 2000 г. – Віктар Астрога), мовазнаўства (ст. Ігар Капылоў, з 2000 г. – Вера Астрэйка), праблемаў выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі (ст. Рыгор Сачок, з 2001 г. – Міхась Струк), генэтыкі і цыталогіі (ст.Ала Яцэвіч). У асобных суполках 1-3 чал. (Інстытуты мікрабіялогіі, надзейнасці і трываласці машын, матэматыкі, цепла- і масаабмену). Разам са зменай кіраўніцтва Акадэміі перастала існаваць і суполка ТБМ пры Прэзідыюме. Шкада, не вытрымалі працяглай і нязручнай дыстанцыі некалі ладныя і актыўныя суполкі ў Інстытутах фізікі імя Б. Сцяпанава; філасофіі і права; мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру. Страцілі порах, паволі адышлі ад сваёй грамадскай ролі старшыні гэтых суполак: У. Паўловіч, У. Агіевіч і Я. Сахута, - мяркуем, да лепшых часоў. Але ж лепшыя часы самі не прыйдуць. Іх трэба нам самім, супольна, набліжаць, настойліва і карпатліва, ахвяруючы сваім часам, нярэдка сваім дабрабытам, сваім службовым становішчам.

Зместам дзейнасці акадэмічнай арганізацыі ТБМ у сучасных умовах з'яўляюцца асветніцтва, распрацоўка нацыянальнай навуковай тэрміналогіі, папулярызацыя роднай мовы шляхам персанальнага і паслядоўнага яе ўжывання ва ўсіх сферах навукі. Беларуская справа ў Акадэміі навук трымаецца фактычна на высілках сяброў таварыства. У асноўным яны працуюць над укладаннем галіновых слоўнікаў, афармляюць па-беларуску заключныя навуковыя праграмы і распрацоўкі, рыхтуюць публікацыі, гадавыя справаздачы інстытутаў.

Захоўваць эфармаваныя на пачатку 90-х гадоў беларускамоўныя тэндэнцыі ў навуцы і асяродкі беларускасці становіцца ўсё складаней. На падставе г. зв. Дзяржаўнага білінгвізму, нягледзячы на рашучыя захады і пратэсты акадэмічнай рады ТБМ, з 1997 г. з беларускай мовы на дзве пераведзены "Весці Акадэміі навук Беларусі. Серыя біялагічных навук", дзе знаходзіць месца адзінкавыя беларускамоўныя артыкулы. І то, падрыхтаваныя нашымі сябрамі (у прыватнасці мной, Р. Ганчаровай, Н. Рабаконь і інш.) да выдання, яны лексічна і правапісна змяняюцца да непазнавальнасці – прыводзяцца да афіцыйных нормаў 1953 (!) году, не зважаючы на навейшыя напрацоўкі Тэрміналагічных камісій ТБМ і пры Міністэрстве адукацыі.

З ліку абавязковых знята здача аспірантамі і спаборцамі за кандыдацкі мінімум іспытаў па беларускай мове і зліквідавана адмысловая кафедра пры Акадэміі навук. Дзякуючы настойлівасці выкладанікаў-энтузіястаў кафедра захавалася, але ўжо пры Інстытуце мовазнаўства і на ёй навучаюцца беларускай мове па жаданні супрацоўнікі НАН. У фае прэзідыюму НАН ужо каторы год запар працуе кніжны шапік з выразна прарасейскай шавіністычнай накіраванасцю. Ніводнае афіцыйнае навукова-вытворчае і іншае мерапрыемства ў Акадэміі не праводзіцца на беларускай мове. Яскравым прыкладам нацыянальнага нігілізму навуковай верхавіны з'явіўся 70-гадовы юбілей НАН Беларусі, які ўрачыста адзначаўся ў студзені 1999 г. у Нацыянальным акадэмічным вялікім тэатры оперы і балету, і падчас якога не прагучала ніводнага беларускага слова, за выключэннем вітання прадстаўніка Расейскай акадэміі навук. Абсурд!

Усведамляючы важнасць Акадэміі навук у сістэме функцыявання нацыянальнай дзяржавы, з мэтай аб'ектыўнай ацэнкі моўнай сітуацыі ва ўстановах НАН Беларусі і адраснага аказання лінгвістычнай дапамогі, у мінулым годзе Акадэмічнай радай праведзена апытанне сярод кіраўніцтва Прэзідыюму і усіх буйнейшых навуковых падраздзяленняў (інстытутаў) акадэміі. Пытанні былі наступнага зместу:

*1. На якой мове (беларускай ці рускай) вядзецца справаводства ў Вашай ўстанове, прапануецца візуальная інфармацыя, выкананы шыльды?*

*2. Якая мова паседжанняў Навуковай рады, канфэрэнцый, спецыялізаваных семінараў, вытворчых нарадаў?*

*3. Колькі навуковых справаздач (заключных і гадавых) падрыхтавана і дакладзена на беларускай мове?*

*4. Колькі манаграфій, зборнікаў, даведнікаў, атласаў, іншых буйных публікацый надрукавана на беларускай мове і здадзена ў друк за апошнія 5 гадоў?*

*5. Колькі навуковых артыкулаў і тэзісаў дакладаў апублікавана ў 1999 годзе на беларускай мове?*

*6. Колькі дысертацый падрыхтавана і абаронена на беларускай мове?*

*7. Колькі Вашых супрацоўнікаў размаўляе па-беларуску? (Укажыце, калі ласка, іх пасаду і навуковую ступень).*

*8. Вашы праблемы і прапановы ў справе беларусізацыі навуковай ўстановы?*

Ад бальшыні з іх атрыманы пісьмовыя (18) і вусныя (3) адказы.

Моўная сітуацыя выглядае так:

1. Справаводства ў бальшыні Інстытутаў НАН вядзецца на расейскай мове, акрамя Інстытутаў гісторыі; мовазнаўства; літаратуры; мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру, дзе справаводства цалкам беларускамоўнае, у т. л. візуальная інфармацыя, шыльды. Часткова па-беларуску вядуцца справы ў Інстытутах геалагічных навук, эксперыментальнай батанікі, фотабіялогіі. Акрамя названых Інстытутаў гуманітарнага профілю, цалкам беларускамоўныя шыльды ў Інстытуце эксперыментальнай батанікі імя В. Купрэвіча (ініцыятыва намесніка дырэктара па агульных пытаннях В. Шкурынскага). У Інстытутах надзейнасці машын, фотабіялогіі, праблемаў энергетыкі, радыябіялёгіі, праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі і іншых шыльды выкананы на дзвюх мовах. Адказы на беларускамоўныя запыты іншых устаноў у некаторых прыродазнаўчых Інстытутах (Цэнтральны батанічны сад, эксперымантальнай батанікі, мікрабіялогіі) рыхтуюцца па-беларуску.

2. Паседжанні Навуковых радаў, канферэнцыі, спецыялізаваныя семінары і вытворчыя нарады праводзяцца таксама на расейскай мове. Выключна беларускай моваай карыстаюцца толькі ў Інстытутах гісторыі; мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру; мовазнаўства; літаратуры. На дзвюх мовах (у бальшыні сваёй на расейскай і часткова на беларускай) яны праводзяцца ў Інстытуце геалагічных навук (у прыватнасці штогадовыя чытанні, прысвечаныя Дню нараджэння акадэміка Г. Гарэцкага).

3. З 1993 г., а ў Інстытуце гісторыі з 1991 г., гадавыя (пра навуковую і арганізацыйную дзейнасць) і кароткія заключныя справаздачы па закончаных тэмах рыхтуюцца на беларускай мове – у 20 выпадках з 21. Толькі ў Інстытуце электронікі па-беларуску падрыхтавана адна заключная справаздача – у 1999 г. Поўныя навуковыя справаздачы па тэмах і праектах рыхтуюцца ўсюды па-расейску, акрамя Інстытутаў гісторыі; мовазнаўства; літаратуры; мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру (цалкам па-беларуску), а таксама Інстытута эксперыментальнай батанікі (ст. н.с. Я. Стэпановічам).

4. За апошнія 5 гадоў на беларускай мове выйшлі з друку 37 манаграфій, падручнікаў, слоўнікаў і зборнікаў, у т.л. 29 (з 45 буйнейшых) – у Інстытуце гісторыі, 3 – у Інстытуце геалагічных навук, 2 – у Інстытуце эксперыментальнай батанікі (аўтары А. Лучкоў; Я. Стэпановіч), па адным выданні – у Інстытуце праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі (Р. Сачок і В. Каляда), заалогіі (В.Капліч), рыдыябіялогіі (Г.Гацко і Я.Канапля). Акрамя таго, падрыхтаваны ці знаходзяцца ў друку некалькі беларуска-іншамоўных слоўнікаў (па генэтыцы, геалогіі, фітацэналогіі).

5. У перыядычным друку на беларускай мове друкуецца больш за палову (з блізу 2 тыс. штогод) артыкулаў і тэзісаў і ў абсалютнай бальшыні гуманітарнага профілю. Так, ільвіную долю пэрыядычных публікацый па-беларуску належыць Інстытуту гісторыі (напрыклад, у 1999 г. – большая частка з 724 артыкулаў). Асобныя спецыяльныя навуковыя артыкулы па-беларуску друкуюцца ў часопісах "Весці НАН Беларусі", "Літасфера", "Прыродные ресурсы". Беларускамоўныя навуковыя тэзісы рыхтуюць адзінкі (у Інстытутах геалагічных навук, генэтыкі і цыталогіі, эксперыментальнай батанікі, тэхнічнай кібернэтыкі, матэматыкі, прыкладной фізікі).

6. Без уліку філялогіі па іншых навуковых спецыяльнасцях, увогуле, на беларускай мове падрыхтаваны да абароны і абаронены 5 доктарскіх і 10 кандыдацкіх дысертацый. Сярод іх толькі дзве ў галіне біялогіі (Я. Стэпановіч і Л. Мішына), астатнія – па гістарычных спецыяльнасцях.

7. Паводле агульных падлікаў беларускай моваай практычна валодаюць больш за палову навукоўцаў, але карыстаюцца публічна больш за 200 чалавек, што складае разам менш за 1,5%. У Інстытуце гісторыі гэты працэнт дасягае 70 – найвышэйшы ў сістэме Акадэміі. Ва ўстановах прыродазнаўчага і тэхнічнага профіляў паўсядзённа і афіцыйна ўжываюць родную мову адзінкі. Сярод карыстальнікаў беларускай мовы няма дыфэрэнцыяцыі па службовай прыкмеце.

8. З праблем беларусізацыі навуковых установаў НАН перадусім названа адсутнасць шэрагу спецыяльных тэрміналагічных слоўнікаў (Інстытуты механікі металапалімерных сістэм, фотабіялогіі, радыябіялогіі). Адзначана, што пашырэнне беларускай мовы ў сферы навукі цалкам залежыць ад стаўлення да яе з боку дзяржавы. Многія арганізатары навукі не бачаць праблем практычнага выкарыстання беларускай мовы і лічаць іх надуманымі. Каб загучала родная мова ў навуцы, па словах дырэктара Інстытута праблем энэргетыкі акадэміка А. Міхалевіча, "беларусізацыю трэба пачынаць са школ і ВНУ".

Вынікі нашага апытання даволі нечаканыя. Паершае, усе адказы, за выключэннем аднаго – з Інстытуту радыяэкалагічных праблем, - дасланы на беларускай мове. Навогул, не было спадзеву на актыўнасць кіраўніцтва ўстаноў. Відавочна, прыслалі свае адказы тыя інстытуты, у якіх беларускамоўнасць нейкім чынам шануецца і штосьці робіцца. На дзіва, не далі ніякіх адказаў кіраўнікі Інстытутаў літаратуры; мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру; сацыялогіі; філасофіі і права, якія заклікаы быць сцяганосцамі беларусізацыі Акадэміі.

Такім чынам, мы атрымалі афіцыйную статыстыку па моўнай сытуацыі ў беларускай навуцы, якая супадае з нашай нефармальнай ацэнкай. Гэта сведчыць пра высокую ступень аб'ектыўнасці атрыманых звестак. Абранае намі асноўнае поле дзейнасці – навуковая тэрмінатворчасць і тэрмінаграфія – правільнае. Нездарма сябры Акадэмічнай арганізацыі ТБМ актыўна ўдзельнічаюць у працы Тэрміналагічнай камісіі таварыства і іншых.

Колькасць публічных карыстальнікаў беларускай мовы ў навуцы блізкая да колькасці фіксаваных сяброў нашай арганізацыі. Але гэта не значыць, што ўсе носьбіты мовы навукі па-беларуску – сябры ТБМ. Многія з іх. Шэраг беларусаў, сёння сведама не далучаюцца да арганізаванага змагання за мову. Гэтаксама сярод актыўных сяброў ТБМ ёсць расейскамоўныя. Такая рэчаіснасць.

На рахунку Акадэмічнай рады і арганізацыі ўвогуле, акрамя тэрміналагічнай справы (праца ў Тэрміналагічнай камісіі ТБМ, падрыхтоўка і укладанне слоўнікаў, даведнікаў, падручнікаў), правядзенне вечарын, прысвечаных 160-годдзю Ф. Багушэвіча, 10-годдзю ТБМ, вечара творчасці аматарскага паэта і спевака, доктара біялагічных навук Генадзя Рыкоўскага (Інстытут эксперыментальнай батанікі), вечара-сустрэчы з народным паэтам Нілам Гілевічам (Цэнтральны батанічны сад), удзел у розных мерапрыемствах Рэспубліканскай і Менскай гарадской радаў ТБМ імя Ф. Скарыны (канферэнцыях, вечарынах, імпрэзах, пікетах).

Дарэчы наш актыўнейшы сябар – А. Анісім з мінулага году ўзначальвае Менскую арганізацыю ТБМ. Я і спадарыня Алена бярэм удзел у працы Сакратарыяту ГА ТБМ імя Ф. Скарыны. Нашы сябры (Г. Цыхун, А. Анісім, У. Кошчанка) удзельнічаюць у распрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.

Акадэмічнай радай падрыхтаваны свой праект Стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы. Ён абмеркаваны і ухвалены Акадэмічнай радай. Пасля канчатковай дапрацоўкі будзе прапанаваны ў Рабочую групу ТБМ па выпрацоўцы Стратэгіі. Нашымі найбольш актыўнымі сябрамі, у прыватнасці доктарам гістарычных на-вук Л.-Лычом, доктарам філалагічных навук В. Лемцюговай, прачытаны лекцыі і апублікаваны шэраг артыкулаў у абарону нацыянальнай гісторыі і беларускай мовы.

Сябрамі ТБМ кіруе гарачае імкненне вярнуць Беларусь і тытульную нацыю да паўнавартаснага жыцця. А бяз мовы, агульнавядома, няма нацыі. У справе беларускай (ліцьвінскага) Адраджэння далёка не апошнюю ролю іграе Акадэмія навук. Мусім пра гэта памятаць.

*Старшыня Акадэмічнай рады ТБМ*
*Язэп Стэпановіч.*



# Знаёмцеся!

Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Вятрак" заснавалася ў снежні 1999 года. Яго заснавальнікам і першым кіраўніком стаў Алег Шэлестаў. Створана гэта арганізацыя для таго, каб падтрымліваць і прапагандаваць беларускую мову, культуру і гісторыю найперш сярод моладзі.

За гэты час аб'яднанне правяло мноства захапляльных конкурсаў і вечарын.

Помню прыйшоўшы ў Навадзевяткавіцкую сярэднюю школу ў падрыхтоўчы клас, мы малечам загадвалі загадкі, чыталі казкі, а напрыканцы ўсяго падаравалі кніжачкі, якія, на наша здзіўленне, яны хутка прачыталі.

Яшчэ аб'яднанне з дапамогай "Газеты Слонімскай" і грамадскай арганізацыі "Воля да развіцця", выдала 2 нумары бюлетэня з аднайменнай назвай, (вялікі вам дзякуй за дапамогу) 15 бюлетэняў мы адаслалі ў Брэсцкі цэнтр "Вежа". Як нам паведамілі па тэлефоне, у іх бывае шмат цікавых творчых людзей нават з-за мяжы.

Летам наш "Вятрак" выпусціў буклеты з прапагандай рэспубліканскай газеты для дзяцей і падлеткаў "Раніца".

Бываў я з Навумцом Арцёмам і ў Горадні, на семінары "Асновы ўзаемадзеяння дзіцячай ініцыятывы з грамадскасцю", мэтай якога было пазнаёміць усіх удзельнікаў з журналістыкай і з тым што азначае "грамадскасць". Адным словам было вельмі цікава і захапляльна. Шмат за лета адбылося запамінальных паездак і новых знаёмстваў.

Не абмінула нас і сустрэча з польскімі партнёрамі, якую ў Слоніме арганізавала і правяло грамадскае аб'яднанне "Воля да развіцця". Пабывалі там Ракуць Дзіма, Навумец Арцём і я, Алег Шэлестаў.

Карацей кажучы, мы многа чаго ўбачылі новага. Таму надышла і наша чарга дзейнічаць. У будучым плануем арганізаваць творчую вечарыну, дзе падлеткі будуць чытаць свае вершы і дэманстраваць іншыя творчыя здольнасці. Праводзіць беларускамоўныя дыскатэкі, выставы малюнкаў... Увогуле планаў у "Ветрака" яшчэ многа і няхай яны спраўджваюцца.

**Наш адрас: Гарадзенская вобласць, Слонімскі раён, в. Мірная, 231825, ТМА "Вятрак".**

Пасол
Федэратыўнай Рэспублікі Германія
У Рэспубліцы Беларусь

*Спадару Алегу Трусаву*
*Старшыні Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*
*вул. Румянцава, 13, 220005, Менск*

Паважаны спадар Трусаў.

Дзякую за Ваша ліст ад 13.02.2001.

Вы і асобы, што блізкія Вашым поглядам, абудзілі маё разуменне і цікавасць да значэння беларускай мовы. Як Вы ведаеце, Пасольства стараецца ў рамках сваіх магчымасцяў улічваць Вашу заклапочанасць аб захаванні Вашай мовы.

Аднак і для пасла з'яўляецца немагчымым умешвацца ва ўнутраныя справы германа-беларускага сумеснага прадпрыемства. Ці гатова германская партнёрская фірма, ARBO media, якая мае на ўвазе ў Беларусі дзелавыя інтарэсы, або ці можа яна быць гатовай да таго, каб прыняць ад мяне параду, я не ведаю. Ва ўсякім разе гэта пытанне, якое трэба закранаць вельмі асцярожна. Але калі прадстаўніца магчымасць звярнуць увагу фірмы ARBO media на моўную праблематыку, я ахвотна паспрабую зрабіць гэта.

*Са шчырым прывітаннем.*
*Ваш а.п. (д-р Хорст Вінкельман)*

## Збор кніжак для беларускай бібліятэкі

Працягваецца збор кніжак для беларускай бібліятэкі, якая ствараецца на радзіме Ф. Багушэвіча і будзе насіць яго імя – у в. Савічуны Рукойнская сянюніі Віленскага раёна. ТБМ Віленшчыны туды ўжо накіравала больш за 50 кніжак на беларускай мове, у тым ліку і кніжкі С. Шарэцкага, якія ён выпусціў у Вільні ў апошні час.

Тут, на бібліятэцы (будынку) ў хуткім часе будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка Ф. Багушэвічу, а побач з бібліятэкай ідзе вуліца, якая ўжо носіць імя паэта.

Дарэчы, пасол Беларусі ў Літве У. Гаркун паабяцаў кіраўніцтву Віленскага раёна ў дапамозе фінансавання гэтай дошкі, а дакладчык па культуры Пасольства Скараходаў паабяцаў з Менску для бібліятэкі прывезці кніжак.

Справа ў гэтым кірунку ідзе, хаця і марудна. Вось ужо мастак Алег Аблажэй з Вільні выканаў партрэт Ф. Багушэвіча, а фінансаванне па просьбе ТБМ зрабіў Генконсул Польшчы ў Літве спадар Яцкевіч, за што яму шчырае дзякуй.

Хацелася б, каб паэты і пісьменнікі з Беларусі падтрымалі наша пачынанне у стварэнні бібліятэкі імя Ф. Багушэвіча.

Калі ласка, высылайце кніжкі на роднай мове для нашай бібліятэкі.

**Наш адрас: Вільня, вул. Рыгос, 36-16, Гіль Ю.**

## Падарункі студэнтам ад прафесара-юбіляра

На выхадныя дні мая ўнучка Оля, студэнтка Гарадзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, прыязджае звычайна дамоў, і часта тэлефануе мне, прыходзіць наведаць бабулю і дзядулю. У пачатку красавіка Волечка паведаміла прыемную навіну: ім, студэнтам аддзялення беларускай мовы і літаратуры прафесар А. Пяткевіч падарыў па экзампляру сваёй новай кнігі "Людзі культуры з Гродзеншчыны". Сказала пра гэта з пачуццём радасці і ўзнёсласці.

Пачутаму, прызнаюся я таксама вельмі абрадаваўся. І міжволі адчуў я пачуццё гонару за шляхетны жэст Аляксея Міхайлавіча, якога ведаю з 60-х гадоў, як таленавітага навукоўца-даследчыка, літаратара, публіцыста, чалавека, які цалкам аддадзены святой справе беларусчыны. А праз тыдзень, зноў жа ад Олі, даведаўся я, як цёпла і сардэчна віталі шаноўнага прафесара студэнты на вечарыне з нагоды яго 70-годдзя. Такія людзі вартыя ўсеагульнай пашаны і любові.

Ведаю, нямала лідчан павіншавала Аляксея Пяткевіча з юбілеем. Наўздагон знамянальным угодкам хочацца яшчэ раз сказаць Аляксею Міхайлавічу вялікі дзякуй за ўсё тое, што ён зрабіў для роднай і любай старонкі ды пажадаць яму на доўгія гады добрага здароўя і творчага плёну. А закончыць сваю нататку застаецца дабразычлівым пажаданнем: "Многае лета! Сто лят!"

*А. Жалкоўскі, г. Ліда.*

## Зарэгістраваны яшчэ дзве арганізацыі ТБМ

На чарговым пасяджанні Сакратарыяту ТБМ імя Францішка Скарыны былі зарэгістраваны дзве новыя арганізацыі ТБМ:

**Калінкавіцкая гарадская арганізацыя і**

**Бярозаўская гарадская арганізацыя ў Лідскім раёне.**

Акрамя таго на Сакратарыяце былі разгледжаны кандыдатуры новага кіраўніцтва ТБМ, якія будуць выносіцца на з'езд ТБМ.

## "Беларускі куток у Вільні"

*За страты, здзек і святатацтва,*
*За безліч страчаных сыноў.*
*Каб гора абмінула і жабрацтва*
*Малюся і маліцца буду зноў.*

***Сяргей Грахоўскі.***

У Таварыстве Беларускай Культуры Літвы адбылася імпрэза, прысвечаная 110 г. з дня нараджэння ксяндза Адама Станкевіча, 140 г. Яўхіма Карскага, К. Каліноўскага, дванаццацігоддзю ТБК. Пра А. Станкевіча змястоўна і цікава распавёў настаўнік П. Саўчанка, асабліва ўразілі апошнія хвіліны жыцця святара нядаўна надрукаваныя сведкам, пра Я. Карскага – доктар Сяргей Караб, а пра К.Каліноўскага гаварыў Валера Місюк – малады аспірант, актывіст таварыства, сябар рады. Выступоўцу пра Адама Стакевіча дапоўнілі фотаздымкі і відэастужка прывезеная з вандроўкі ў вёску Арляняты, якую здзейснілі актывісты ТБК летась, сустрэліся з пляменніцай ксяндза, наведалі магілу, пабывалі ў доме, дзе нарадзіўся. Пасля ўрачыстай часткі за кубкам гарбаты і філіжанкай кавы сціпла адзначылі дванаццацігоддзе таварыства. Здаецца зусім нядаўна адзначылі дзесяцігоддзе, час бяжыць хутка. Менавіта так супала, што ў лютым 1989 годзе было зарэгістравана ТБК. Хвілінкай маўчання ўспомнілі тых, хто стаяў ля вытокаў і каго ўжо няма сярод нас. І як прыемна было пачуць цёплыя словы ў адрас таварыства ад Святланы, дачкі Міхася Петрыкевіча, яна з сынам працягвае бацькаву справу, з цікавасцю наведвае ТБК. Ды і за апошнія два гады шмат цікавага адбылося, асабліва сустрэч. Тут былі і Г. Бураўкін, і А. Грыцкевіч, Р. Гарэцкі, Івонка Сурвіла, С. Адамовіч, А. Трусаў, А. Мельнікаў, А.Макоўская, рыцары з Магілёва, госці з Польшчы і іншыя. Пастаўлены помнік Лявону Каралю на Ліпоўскіх могілках, выдадзена кніжка пра таварыства, і, вядома, традыцыйна адзначаюцца 8 верасня, 26 лістапада, 25 сакавіка.

Арганізоўваліся выставы дзіцячых малюнкаў, вандроўкі ў Беларусь. Тут збіраюцца нашчадкі беларускай інтэлігенцыі – Генрых Астроўскі, дачка Юліяна Саковіч Вольга, Алеся Луцкевіч. Апошнім часам прыходзіць больш моладзі – мае і былыя вучні з Рыгішскай школы, адзін з іх Валера Місюк. Ёсць у Вільні беларускі куток, куды можна прыйсці ў любы дзень, можна пагартаць падшыўку (выпісвае ТБК "ЛіМ", "Наша слова", "Ніву", "Голас Радзімы", "Народную волю", "Рунь"), а можна проста паразмаўляць у ўтульным пакойчыку.

*Леакадзія Мілаш,*
*старшыня суполкі Тракайскага р. г. Вільні.*

# "Берагіня" аберагае Беларусь

Падчас наведвання гімназіі № 4 я пазнаёмілася з сябрамі суполкі ТБМ і была захоплена руплівай працай гэтых шчырых, адданых беларушчыне людзей.

Утварылася суполка "Берагіня" 10 сакавіка 1999 года і нядаўна адзначыла другі год народзінаў. Спачатку іх было 8 настаўнікаў. Сёння арганізацыя налічвае каля 30 настаўнікаў і 300 дзяцей, якія ўтвараюць 18 суполак. Старшынёю Тамара Баранава, настаўніца ангельскай мовы. Прысутнасць сяброў ТБМ адчуваецца паўсюль яшчэ на сходзе настаўнікаў у зале гімназіі згадвалі "Берагіню" і дырэктар, і яго намеснік. Потым, калі я ішла калідорамі школы, знаёмая абрывіятура ТБМ суправаджала на ўсіх паверхах.

Вось Ніна Мікуліч, намеснік старшыні, настаўніца біялогіі, паказвае насценную газету, прысвечаную народзінам арганізацыі. Ляцяць па сцяне буслікі, несучы на крылах зычэнні маленькіх сяброў ТБМ з суполак "Буры мядзведзь", "Светлячкі", "Бусляняты", "Верасок", "Жаўручкі" і інш.

Ідзём далей і заходзім у хату, збудаваную мастаком Аляксандрам Грыгор'евым, сябрам ТБМ. У печы гарацць дровы, качарэжнік прытуліў чапялю, вілкі, качаргу. Ложкі ўсцелены посцілкамі, на падлозе – тканыя дываны. Лямпа асвятляе няхітры сялянскі скарб – лыжкі, лён, каноплі, кужаль. Я ўспамінаю, як складана было растлумачыць мне, маладой настаўніцы, сваім вучням на ўроках літаратуры пра кужэльнае палатно, прасніцу, бёрды... А тут і тлумачыць не трэба – паказвай толькі.

Каля хаты падняў "шыю" калодзежны жураўель. За драўляным зрубам не бачна, што ў вядро вада ліецца са звычайнага гарадскога крана. Невысокенькі паркан расчыняе веснічкі і запрашае на падворак. І так па-сапраўднаму ўсё, такія жывыя гэтыя мілыя сэрцу вясковага жыхара вобразы, што я адразу пераношуся ў свае родныя Погіры на Гарадзеншчыне, у прытульны куток свайго дзяцінства. Колькім жа людзям, што трапілі ў гэтую хату ў гімназіі, дапамог таленавіты майстар Аляксандр зрабіць такі экскурс з-пад менскіх муроў да роднага цяпельца!..

Гаспадары вядуць мяне ў сядзібу ТБМ. З першага погляду гэта быццам звычайны клас, але ж які ён цікавы. На сценах можна ўбачыць "вопратку" (так сябры ТБМ называюць афармленне) самых розных святаў: Калядаў, Дзядоў,Дабравешчання, Вялікадня, Пакроваў, Масленкі, Багача. "Вопратку" стварылі самі з дзецьмі з дапамогай Ірыны Катранковай, настаўніцы малявання, кіраўніка гуртка "Чароўны пэндзлік", цудоўнага чалавека. Усе гэтыя святы адзначаліся ў гімназіі і запісаныя на відэа.

На асноўным месцы ў сядзібе – інфармацыя пра ўсю арганізацыю. Я пабачыла гербы, дэвізы, пашпарты суполак, прачытала летапісы. Колькі цікавых справаў правялі дзеці ў гімназіі. На Шоў беларушчыны прыехалі студэнты і так натхнілі гімназістаў, што зала працавала ў адзіным рытме – ведаць Беларусь, любіць Беларусь. За перамогу змагаліся да апошняга.

Мне вельмі спадабалася, як у гімназіі інфармавалі пра выніку перапісу 1999 г. У кожны клас ішлі двое вучняў – адзін старшакласнік, другі – пачатковец. Старэйшы гаварыў, колькі ў нас жыве беларусаў, колькі людзей назвала роднай моваю беларускую і г.д. А маленькі пасля так шчыранька прамаўляў: "Ласкава просім, дзе б вы ні былі – дома ці на вуліцы, у краме ці на працы – гаварыце па-беларуску".

Прынцып працы ў суполцы ТБМ самы эфектыўны – там працуюць усе, а не толькі кіраўнікі. Так, Валянціна Весялова афармляе падпіску на газету "Наша слова", Алена Сярко вядзе кантакт з тэатрам "Зьніч", Наталля Юшкевіч – рэдактар газеты "Берагіня", Наталля Краўцова са старшынёю кіруе КВЗ, вядзе завочнае падарожжа па гарадах Беларусі, Таісія Хлус наладжвае сустрэчы з паэтамі, шчыра працуюць Людміла Ліпень, Марына Горад.

Слухаючы сяброў ТБМ, дзівячыся з іх працы, думаю, што калі б кожная суполка ТБМ у Беларусі ці Менску была хоць трошку падобная да такой "Берагіні", то ўжо даўно не трэба было б і мову нашу, і зямлю ад некага абараняць. Рассыпаўся б у пыл той нехта, што парагнае прагльнуць нас. Рассыпаўся б ад шчырай любові маленькіх людзей з вялікім сэрцам.

*Людміла Дзіцэвіч,*
*намеснік старшыні ТБМ*

**ВЯСНА І ПТУШКІ**

Вясна звініць, гучыць, спявае,
Як жаўранак пасля зімы.
Яна і ў лужынках гуляе,
І вочкі ў вербах ажыўляе.

Вясну мы рады ўсе вітаць
І птушак з выраю чакаць.
Няхай заўжды вясна звініць –
Нам з гэтым звонам добра жыць.

*Гарбачова Іра 4 "а" клас,*
*суполка "Берагіня".*





# Да "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі"

## (агляд матэрыялаў)

Праца над "Стратэгіяй развіцця беларускай мовы ў XXI ст." вядзецца спецыяльна створанай пры Таварыстве беларускай мовы Рабочай групай, у склад якой увайшлі вядомыя інтэлектуалы – мовазнаўцы, пісьменнікі, навукоўцы, пры шырокім удзеле грамадскасці. На адрас ТБМ прыходзяць лісты з меркаваннямі і прапановамі, якім чынам дапамагчы роднай мове беларусаў заняць належнае месца ў дзяржаве і грамадстве. Усе гэтыя матэрыялы збіраюцца ў спецыяльна заведзенай папцы "Стратэгія", разглядаюцца на паседжаннях Рабочай групы. Думкі, выказаныя ў іх улічваюцца пры распрацоўцы 3-х асноўных дакументаў, якія павінны стацца вынікам трох кірункаў працы Рабочай групы: "Стратэгіі ...", "Дэкларацыі аб беларускай мове" і новай рэдакцыі "Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь".

Прапануем вашай увазе кароткі агляд змесціва папкі "Стратэгія". У аснову яго леглі найбольш грунтоўныя напрацоўкі, створаныя сябрамі Рабочай групы з мэтай запачаткаваць працу, закласці "фундамент" для далейшай выбудовы. Гэта, у першую чаргу, праекты "Стратэгіі..." і "Дэкларацыя аб беларускай мове", прапанаваныя сп. Станіславам Суднікам.

***Праекты надрукаваны ў "Нашым слове", аналіз іх апускаем.***

Грунтоўны, падрабязна распрацаваны праект "Стратэгіі" прапанаваў таксама сябра Рабочай групы Сяргей Кручкоў. Сваю распрацоўку аўтар прысвячае праблеме забеспячэння магчымасцяў для выкарыстання мовы. Ён лічыць, што дзеля гэтага неабходна выпрацаваць сістэму заахвочвання і падтрымкі для людзей, каб яны карысталіся мовай падчас працы або падчас атрымання паслуг. Заахвочваць трэба арганізацыі, установы, службы сервісу, якія аказваюць свае паслугі па-беларуску. Таксама трэба забяспечыць магчымасць людзям ужываць беларускую мову і ў нефармальных сітуацыях. Інакш кажучы, павелічэнне магчымасцяў, хоць і апасродкавана, забяспечваецца развіццём структур падтрымкі.

1. Грамадскі сектар.
2. Добраахвотніцкі сектар.
3. Прыватны сектар.
4. Павелічэнне магчымасцяў у нефармальных зносінах і на рабочым месцы.
5. Інфармацыйныя тэхналогіі.
6. Развіццё электронных СМІ.
7. Развіццё незалежнай беларускамоўнай рэгіянальнай прэсы.
8. Праца груп ціску з дзяржаўным сектарам і апора на юрыдычную базу.
9. Праца ў войску.

Далей падрабязна раскрываецца кожны з гэтых пуктаў. Аўтарам выказаны цэлы шэраг цікавых ідэяў і канструктыўных прапаноў. Значная ўвага ў праекце надаецца беларусізацыі інфармацыйных тэхналогій і сродкаў масавай інфармацыі, падаюцца прапановы, якім чынам можна гэтага дасягнуць. Прывядзем вытрымку з праекта развіцця беларускамоўных электронных СМІ:

"Для забеспячэння магчымасці карыстаць такое дасягненне цывілізацыі, як тэлевізія, неабходна распрацаваць канцэпцыю і ствараць беларускамоўны спадарожнікавы канал. Пры яго стварэнні карыстацца наступнымі прынцыпамі:

- у цяперашніх неспрыяльных палітычных умовах размясціць студыю па-за межамі Беларусі, што зробіць немагчымым закрыццё канала недэмакратычнымі кіраўнікамі дзяржавы;
- рабіць даступнай тэлетрансляцыю і праз сецева, забяспечыць кантакт з тэлеглядачамі з усяго свету;
- стымуляваць і дапамагаць ажыццяўленню ініцыятываў, накіраваных на пераклад здабыткаў сусветнай кінематаграфіі на беларускую мову".

Апісана праца груп ціску з дзяржаўным сектарам пры апоры на юрыдычную базу:

"Існая заканадаўчая база дазваляе пазбягаць выкарыстання беларускай мовы, але ёсць і механізмы грамадскага ўздзеяння ў гэтых сферах. Варта лічыць, што ігнараванне беларускай мовы ў названых сферах з'яўляецца стварэннем перашкод і абмежаванняў у карыстанні дзяржаўнай мовай (арт. 172? Адміністратыўнага кодэкса). І таму трэба:

- распрацаваць метадычны дапаможнік з парадамі юрыстаў, як адстойваць свае моўныя правы;
- рэгулярна ладзіць ва ўсіх рэгіёнах краіны семінары, трэнінгі лідэраў грамадскіх арганізацый, канферэнцыі з мэтай азнаямлення з правамі грамадзян у моўнай сферы і метадамі ўціску (лабавання) на ўлады па забеспячэнні функцыянавання беларускай мовы;
- прынцыпова не пакідаць ніводнага факту ігнаравання беларускай мовы ў адзначаных сферах (татальнае рэагаванне).

Шэраг гэтых мер павінен прымусіць улады пазбягаць сітуацый, калі не ўжываецца беларуская мова ў памянёных сферах".

Сябра Рабочай групы, сп. Генадзь Цыхун унёс свае прапановы адносна таго, якія пытанні павінны быць закрануты пры стварэнні "Дэкларацыі аб беларускай мове". У дакуменце мае быць асветлена канцэпцыя развіцця беларускай мовы, якая ўключыла б кароткую гісторыю ("тут заняць ясную пазіцыю адносна "супольнай класікі"), сучасны стан ("жорстка, панавукова, але без ляманту і плачу"), перспектывы развіцця. Важным момантам сп. Цыхун лічыць аддзяленне лёсу мовы ад палітыкі і дзяржаўнасці па той прычыне, што мова – каштоўнасць вышэйшага рангу, "доўгатэрміновая", і лёс яе не павінен вызначацца асаблівасцямі палітычнай сітуацыі.

Напрацоўка сябра Рабочай групы сп. Міхася Булавацкага з Магілёва "Да Стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы" утрымлівае самыя розныя прапановы як па "Дэкларацыі", так і па ўласна "Стратэгіі", не аб'яднаныя, аднак, у адзіную сістэму і вызначаныя самім аўтарам, як "Пункцірныя думкі М. Булавацкага". Аўтар лічыць, што суіснаванне дзвюх моваў у сучаснай Беларусі – аб'ектыўная рэальнасць, з якой трэба лічыцца, таму неабходна ўзаемная павага паміж рознымі моўнымі супольнасцямі. "Трэба спакойна шукаць згоду, паразуменне і кансэнсус, супрацоўнічаць у адраджэнні і развіцці мовы".

Неабходна ствараць умовы, пры якіх веданне роднай мовы павінна стаць выгодным і перспектыўным для беларуса. Для гэтага трэба пашырыць "рынак збыту" мовы і магчымасці службовай кар'еры, звязанай з моўнай кваліфікацыяй, ствараць і пашыраць моўныя асяродкі. Неабходна паскорыць працэс унармавання беларускай мовы, пасля чаго можна пачаць далейшае разгортванне сферы моўных паслуг, аператыўных і, па магчымасці, бясплатных. Для павелічэння маральнай і матэрыяльнай зацікаўленасці ў валоданні беларускай мовы пашыраць кола конкурсаў, спаборніцтваў, і пашыраць іх на "нямоўныя" асяродкі: для школьнікаў і студэнтаў з фізіка-матэматычнымі, хіміка-біялагічнымі, тэхнічнымі і іншымі схільнасцямі, для дарослых; ствараць курсы засваення мовы для палітыкаў, грамадскіх дзеячоў. Гэтыя і іншыя прапановы утрымліваюць "Пункцірныя думкі М.Булавацкага".

Грунтоўную, падрабязна распрацаваную серыю прапановаў прадставіла Светлагорская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны, падпісаную старшынём арганізацыі В. Болбасам.

***Гэтыя прапановы падаём асобна***

Спадарыня Ірына Шэршань з Менску у сваім допісе выказвае наступныя прапановы: "Я бачу Стратэгію як набліжэнне да мэты: Праблему Мовы (ПМ) выштурхнуць з усяе моцы менавіта на дзяржаўны ўзровень, як мага хутчэй, як мага вышэй". Каб гэта ажыццявіць, спн. Ірына прапануе папрасіць у Ярмошына грошай для стварэння пры ТБМ "Камітэта Правапісу і культуры мовы", які будзе займацца ўнармаваннем правапісу, рабіць пераклады, сачыць за моўным рэжымам, культурай мовы, займацца беларусізацыяй гандлёвага асартыменту, працаваць над рознымі іншымі праектамі па ўвядзенні беларускай мовы ў розныя сферы жыцця. Вось яшчэ адна з найбольш важных для нас прапаноў: "Ахапіць падпіскаю на "НС" кожнага настаўніка беларускай мовы ў кожнай школе ды ПТВ Беларусі праз "хадакоў" – сяброў ТБМ".

Сп. Валер Савіч з Пінску ў сваім лісце палемізуе з Сержуком Кручковым, аўтарам згаданага ўжо тут праекта Стратэгіі. Спадар Савіч лічыць, што праграма Кручкова амаль гатова да рэалізацыі, але тое можа адбыцца пры добрай дзяржаўнай падтрымцы, чаго ў нас няма. "У любым выпадку, - піша ён, - ажыццяўленне праграмы вымагае мець дастатковую матэрыяльную і інтэлектуальную базу. Наколькі з гэтым у нас добра, ты ведаеш. Ад гэтага залежыць эфектыўнасць праграмы, вынік, які яна дасць. Іншым разам не варта брацца за справу, не зрабіўшы добрай падрыхтоўкі, бо ў выніку сапсуеш саму ідэю". Другое, на што звяртае ўвагу сп. Савіч, гэта вызначэнне прыярытэтаў. "Галоўным, - зазначае аўтар ліста, - мне зараз падаецца ствараць неабходныя ўмовы для надзейнага захавання "насення" – здольнасці да адраджэння ў перспектыве. Прыйдзе час, яно трапіць у добрую глебу і дасць плён (згадайма біблію)". Зыходзячы з гэтых меркаванняў, сп. Савіч лічыць адным з найважнейшых прыярытэтаў у нашай сітуацыі стварэнне трывалых беларускіх асяродкаў, дзе захоўвалася б гэтае "насенне", чакаючы свайго часу. Яшчэ адна праблема, якую закранае ў сваім допісе сп. Савіч, гэта ўзаемадачыненні сталіцы і правінцыі. Праграма сп. Кручкова, на яго погляд, больш прыдатная для сталіцы і буйных гарадоў, што ж да правінцыі, то яна мае іншыя псіхалагічныя патрэбы і каштоўнасці, і гэта трэба ўлічваць. Пры гэтым, праграма "можа быць эфектыўнай і ў малых гарадах, зыходзячы з асяродкаў" (згаданых раней). "У малых гарадах куды лягчэй сабраць дэмакратаў усіх кірункаў пад адзіны дах, стварыўшы ім умовы. Гэтага не скажаш пра сталіцу з мільённым насельніцтвам. Яны папросту не адчуваюць у гэтым патрэбы".

Спадарыня Таццяна Усцінава з Пінску ў сваім лісце "Прапановы па праекту "Стратэгіі развіцця беларускай мовы" звяртае ўвагу на нявызначанасць тэрмінаў, на якія разлічаны мерапрыемствы, прапанаваныя сп. Кручковым у ягоным праекце Стратэгіі. Яна лічыць, што тэрмін павінен быць не меншым, як 15-20 год, каб не вяртацца да "прымусовай беларусізацыі", каб паспелі вырасці кадры, здольныя ажыццяўляць усе тыя мерапрыемствы. Сярод прапаноў, выказаных спн. Усцінавай, арганізацыя курсаў для чыноўнікаў, выкарыстанне для папулярызацыі мовы палітінфармацый, якія зноў загадана праводзіць на прадпрыемствах і ў дзяржаўных установах, публічных лекцый па актуальных праблемах, стварэнне беларускамоўных месцаў адпачынку (хаця ў гэтай справе ўсё ўпіраецца ў памяшканні, таму тут складана будзе абысціся без падтрымкі дзяржавы).

Два допісы з прапановамі па Стратэгіі падаў у Таварыства сябра Рабочай групы Пятро Русаў. У адным з іх аўтар выказвае прапановы па дзяржаўнай падтрымцы беларусаў за мяжой. Ён лічыць, што беларуская дзяржава павінна трымаць іх у полі зроку, клапаціцца пра іх, спрыяць кансалідацыі беларускіх суполак ў месцах кампактнага пражывання нашых суайчыннікаў, з гэтай мэтай зябспечыць за кошт дзяржаўных сродкаў работу нацыянальных бібліятэк, школак і класаў, самадзейных тэатраў, арганізоўваць перасылку друкаваных выданняў, заключыць дзяржаўнае пагадненне аб трансляцыі беларускага тэлебачання на гарады і раёны, дзе зафіксавана пражыванне беларусаў, усімі сродкамі клапаціцца пра забяспечэнне правоў беларусаў у краінах іх пражывання. Іншыя прапановы сп. Русава прысвечаны абароне беларускай мовы і культуры ў Рэспубліцы Беларусі і за яе межамі. Ён лічыць, што дзяржава абавязана клапаціцца аб абароне беларускай мовы ад іншамоўнага засілля шляхам ільготнага падаткаабкладання альбо дадатковага фінансавання ўсіх суб'ектаў, якія працуюць на ніве беларускай культуры, аказваюць фінансавую дапамогу культурніцкім праграмам і мерапрыемствам, якія закранаюць праблемы мовы. Відавочна толькі, што ўсе гэтыя прапановы будуць ажыццяўляцца ў шчаслівай будучыні сапраўды беларускай дзяржавай. Пра тое, што найлепей было б рабіць для нашай мовы сёння, сп. Русаў выказаўся ў другім сваім допісе. На яго думку, "праблема яе існавання і выжывання ў сучасны перыяд залежыць толькі ад свядомай часткі інтэлігенцыі". Спадзеў толькі на дзейнасць свядомых людзей, дзеячаў літаратуры і мастацтва, якія ішлі б у народ, да моладзі – брали шэфства над школамі па месцы жыхарства, арганізоўвалі там гурткі, суполкі, ладзілі сустрэчы. "Гэтая праца праз 2-3 гады дасць магутны парасткі нашай моўнай будучыні".

Сп.Русаў лічыць, што трэба падняцца на рашучае супрацьдзеянне "моўнаму камуністычнаму генацыду", які і сёння існуе ў выглядзе расейскамоўнага засілля ў беларускіх школах, шляхам адмаўлення ад вывучэння ў "беларускамоўных" (ён прапануе называць іх нацыянальнымі) класах і школах расейскай мовы і расейскай літаратуры на ёй.

Сп. Мікола Лавіцкі ў сваім допісе вызначае дзве асноўныя плыні дзейнасці ТБМ: культурна-асветніцкую і абаронча-наступальную. Працытуем тут некаторыя з ягоных шматлікіх прапановаў (з разраду абаронча-наступальных):

"...- стварэнне БНУ;
- дасягнуць стварэння пад патранажам Міністэрства адукацыі курсаў беларускай мовы пры школах, на буйных прадпрыемствах, пры сядзібах ТБМ;
- перыядычна патрабаваць ад улады інфармацыі аб выкананні законаў па моўных пытаннях;
- патрабаваць ад улады запрасінаў для ТБМ па ўдзелу яго пры правядзенні атэстацыі на спецпрыгоднасць дзяржслужбоўцаў, выкладчыкаў усіх узроўняў, спецыялістаў на прадпрыемствах і ўстановах; праводзіць атэстацыю на беларускай мове;
- патрабаваць ад заканатворчай улады змянення заканадаўчых актаў, якія вядуць да выцяснення беларускай мовы;
-дасягнуць стварэння суполак ТБМ у вайсковых, міліцэйскіх падраздзяленнях".

На гэтым не завяршаецца агляд матэрыялаў з прапановамі па "Стратэгіі". Запрашаем чытачоў "Нашага слова", усіх сяброў ТБМ, а таксама ўсіх, хто заклапочаны лёсам роднай мовы, да ўдзелу ў абмеркаванні апублікаваных на старонках нашай газеты ў двух мінулых нумарах праектаў "Дэкларацыі аб беларускай мове" і "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі". Свае заўвагі, меркаванні, прапановы дасылайце на адрас "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны": 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.

***Святлана Багданкевіч, сакратар Рабочай групы па выпрацоўцы "Стратэгіі развіцця беларускай мовы у XXI стагоддзі".***



# Да "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі"

## Прапановы Светлагорскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны на паседжанне Рабочай групы для выпрацоўкі Стратэгіі развіцця беларускай мовы.

**1. Тэорыя. Правапіс. Графіка. Развіццё і ўдасканаленне.**

1.1. Заканчэнне работы па ўнармаванню класічнага беларускага правапісу (тарашкевіцы). (2001 – 2003 г.г.)

1.2. Выданне агульнаўжывальных і тэматычных беларускіх арфаграфічных слоўнікаў класічнага правапісу. (2002 – 2004 г.г.)

1.3. Пашырэнне выдання газетаў і часопісаў класічным правапісам. Прапаганда і спрыянне (2002 г. і далей).

1.4. Стварэнне рабочай групы па распрацоўцы беларускага лацінскага алфавіту з запрашэннем для ўдзелу ў гэтай працы людзей, якія маюць уласны досвед карыстання беларускай лацінкай. (2001 г.).

1.5. Распрацоўка беларускага лацінскага алфавіту (2002 – 2006 г.г.).

1.6. Вынясенне распрацаванага беларускага лацінскага алфавіту на разгляд спецыялістаў зацікаўленых структураў Нацыянальнай Акадэміі навук, актыву ТБМ, грамадскасці, з мэтаю яго ўсебаковага абмеркавання. (пасля заканчэння распрацоўкі).

1.7. Правядзенне шырокай кампаніі па папулярызацыі распрацаванага лацінскага алфавіту (газеты, часопісы, электронныя медыі, канцэртныя праграмы і да т.п.).

1.8. Выход з заканадаўчай ініцыятывай у парламент аб прыняцці Закону па наданню лацінскаму алфавіту афіцыйнага статусу, поруч з кірылічным. (2008 г. арыентыровачна).

**2. Развіццё беларускамоўнай адукацыі:**

2.1. Стварэнне Беларускага Нацыянальнага інстытуту ў складзе БДУ (згодна ранейшых прапановаў ТБМ – працяг працы).

2.2. Пастаянная праца, накіраваная на правядзенне колькасці беларускамоўных школ і дзіцячых садкоў (класаў у школах і груп у дзіцячых садках) у адпаведнасць з нацыянальным складам насельніцтва па выніках апошняга перапісу.

2.3. Выкладанне гуманітаных вучэбных прадметаў (беларускай літаратуры, гісторыі, этнаграфіі Беларусі, беларускага правазнаўства і г.д.) у рускамоўных школах на беларускай мове. (З 2004 г. і надалей).

2.4. Стварэнне беларускамоўных плыняў ва ўсіх сярэдніх і вышэйшых навучальных установах Беларусі (2002-2004 г.г. – падрыхтоўчы перыяд, з 2005 г. і надалей – пастаянна).

**2.5. Метадычнае і матэрыяльнае забеспячэнне беларускамоўнай адукацыі:**

2.5.1. Распрацоўка вучэбных праграм па вывучэнню усіх вучэбных прадметаў у агульнаадукацыйных школах на беларускай мове (2002-2004г.г. – арыентыровачна). Да гэтай працы мэтазгодна прыцягнуць спецыялістаў Нацыянальнай АН, установаў Міністэрства адукацыі, актаў ТБМ.

2.5.2. Распрацоўка беларускамоўных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, слоўнікаў па ўсіх вучэбных прадметах, згодна з раней распрацаванымі вучэбнымі праграмамі (2004-2006 г.г.).

2.5.3. Выданне ў неабходнай колькасці праграм, падручнікаў, дапаможнікаў і слоўнікаў згодна п.п.2.5.1. і 2.5.2. (2006-2008 г.г.).

2.5.4. Распрацоўка сістэмы беларускамоўных вучэбных кампутарных праграм для кампутарных класаў, лінгафонных кібінетаў па ўсіх вучэбных прадметах агульнаадукацыйных школ (2002-2006г.г.).

2.5.5. Распрацоўка і выданне падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў і г.д. унармаваным класічным правапісам згодна п.п. 1.1. і 1.2. (2005-2008 г.г.).

2.5.6. Перавод раней распрацаваных праграм, падручнікаў, дапаможнікаў, і іншай вучэбна-метадычнай літаратуры на беларускую лацінскую графіку (2008-2010 г.г.).

2.5.7. Выданне ў неабходнай колькасці вучэбна-метадычнай літаратуры лацінскай графікай (2009-2013 г.г.).

2.5.8. Выданне ў дастатковай колькасці беларускамоўнай дзіцячай літаратуры, асаблівую увагу надаючы прывабнасці для дзяцей тэкстаў і сюжэтаў, асабліва на беларускія тэмы, прывабнае мастацкае афармленне гэтых выданняў. Беларускамоўны дзіцячыя газеты, часопісы і кнігі павінны стаць больш цікавымі і прывабнымі для дзяцей, чым рускамоўныя (чым хутчэй, тым лепш).

**2.6. Паступовая рэарганізацыя сістэмы адукацыі і выхавання ў бок іх далейшай беларусізацыі.**

2.6.1. Паступовы перавод агульнаадукацыйных школ і дзіцячых садкоў на беларускую мову навучання і выхавання дзеля дасягнення прапорцыяў беларускіх і рускіх школ і садкоў згодна з нацыянальным складам насельніцтва. (2003-2006 г.г.)

2.6.2. Падрыхтоўка педагогаў для школ і садкоў для навучання дзяцей пісьму унармавання класічным беларускім правапісам (2006-2010 г.г.).

2.6.3. Навучанне ў першых класах агульнаадукацыйных школ і дзіцячых садках пісьму згодна правілам класічнага беларускага правапісу (з 2011 г.)

2.6.4. Стварэнне ва ўсіх абласных, гарадах абласнога падпарадкавання і раённых цэнтрах філіяў Беларускага Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа (пачатак у 2003 г.).

2.6.5. Перавод усяго справаводства ў сістэме адукацыі на беларускую мову (2003-2004 г.г. пачатак).

2.6.6. Падрыхтоўка педагогаў для навучання дзяцей пісьму лацінскай графікай у агульнаадукацыйных школах і дзіцячых садках (2011-2016 г.г.).

2.6.7. Пачатак навучання дзяцей пісьму ў першых класах школаў і дзіцячых садках лацінскай графікай (2014 г. – дзіцячыя садкі, 2016г. першыя класы школаў). Як варыянт, паралельна з класічным беларускім кірылічным правапісам.

2.6.8. Пабудова вучэбных праграм па гуманітарных прадметах з акцэнтам на здабыткі, як сусветнай, так і, асабліва, айчыннай навукі, культуры і, што асабліва важна, гісторыі. (З 2003 г. і надалей).

2.6.9. Падрыхтоўка беларускамоўных спецыялістаў для СМІ, культуры: тэле і радыёвядоўцы, рэжысёры, кіраўнікі гурткоў мастацкай самадзейнасці і г.д. (з 2003 г. і надалей).

**3. Развіццё і пашырэнне беларускага слова.**

**3.1. Фармаванне беларускамоўнай інфармацыйнай прасторы:**

3.1.1. Перавод існых беларускіх электронных СМІ на беларускую мову. Стварэнне новых электронных СМІ. (З 2003 г. і надалей).

3.1.2. Распрацоўка і рэалізацыя музычных радыё і тэлепраграмаў з перавагай у іх беларускіх песень ( З 2002 г. і надалей).

3.1.3. Перавод на беларускую мову ўсіх цэнтральных (дзяржаўных) газет на беларускую мову (З 2003 г. і надалей)

**4. Вяртанне да Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы, прынятай у 1991 годзе.**

4.1. Перагледзець Праграму з улікам новых рэаліяў дзяржаўнага і грамадскага жыцця, пры неабходнасці падкарэктаваць. Лічым мэтазгодным пачаць яе рэалізацыю спачатку, як кажуць з нуля. Мэтазгодна захаваць тэрміны увядзення ў дзеянне раздзелаў Праграмы праз тыя ж прамежкі часу, што былі вызначаны пры яе першапачатковым прыняцці.

4.2. Выкананне Праграмы павінна пачынацца з самай вяршыні дзяржаўнай улады з распаўсюджваннем беларускай мовы ў грамадстве зверху ўніз, усяляк падтрымліваццa ініцыятыва руплівцаў беларускай мовы, якія ёсць на ўсіх ступенях сацыяльнай лесвіцы.

*По даручэнню Рады: Старшыня Светлагорскай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны*
*В. Болбас.*

***Да ўвагі сяброў ТБМ і заўзятараў беларускага слова.***

***Газета "Звязда" пачала друк матэрыялаў па Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі. Ёсць магчымасць для працягу дыскусіі з улікам значна большага накладу гэтай газеты. Сакратарыят ТБМ заахвочвае сяброў ТБМ да супрацоўніцтва з газетай "Звязда".***

# А што ў імперыі?

### Заўвагі і прапановы на "Праект закона Рэспублікі Беларусь "Об образовании в Республике Беларусь"

Азнаямленне з праектам закону, які падаецца як "унясенне зменаў і дапаўненняў у закон аб адукацыі", паказвае што па закладзенай канцэпцыі гэта ніякія не змены і не дапаўненні. Чорным па беламу напісана, што "праект вызначае прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў сферы адукацыі, ... вызначае асноўныя правы і абавязкі ўдзельнікаў адукацыйнага працэсу". Дык якая ж палітыка сучаснага кіраўніцтва Беларусі і якія правы карэннага этнасу – беларусаў на атрыманне адукацыі ў роднай мове?

Палітыка і так званая канцэпцыя, змест і дух "проекта" скіраваны на фарсіраванае завяршэнне поўнай асіміляцыі беларусаў. Па гэтым праекце беларусы павінны стаць манкрутамі, роднабязмоўнымі рабамі "руссого языка", рабамі Расеі. Між іншым, шаноўны чытач, ці сустракалі вы рускага чалавека, не камандыровачнага з Расеі, а які нарадзіўся ў Беларусі і які прыняў мову беларусаў, перайшоў у беларускамоўнае асяроддзе і ганебна ставіцца да роднай яму рускай мовы і культуры? Я такога не сустрэў. А каб сустрэў, я б яго не паважаў. Дык чаму ж беларусы павінны паважаць тых, хто паважае толькі сябе і не паважае нас? Дзе ж тут тая роўнасць?

Абмяркоўваны праект у руках сучаснай улады ёсць інтэлектуальны Чарнобыль, які хочуць узарваць не толькі над усёй тэрыторыяй Беларусі, але ў глабальным маштабе. Дух і сэнс праекту скіраваны на поўнае завяршэнне знішчэння рэшткаў беларускамоўнай сістэмы выхавання і навучання.

Базавае паняцце "адукацыя" ў праекце закона (арт.2) падаецца ў нейкай абстракцыі, як "сацыяльна арганізаваны працэс навучання і выхавання" без арыентацыі на канкрэтны аб'ект гэтага працэсу – асобу. Наогул у праекце паняцце "асоба" адсутнічае.

А што ў аналагічным законе Расеі? Там у цэнтры адукацыйна-выхаваўчага працэса пастаўлена асоба. "Пад адукацыяй разумеецца мэтанакіраваны працэс навучання і выхавання ў інтарэсах асобы, грамадства, дзяржавы".

Параўнаем палажэнні двух законаў аб мовах навучання і выхавання. У беларускім прекце грамадзянам дэклaруецца права на выбар мовы навучання і выхавання і то з агаворкай "у межах магчымасцяў, прадстаўляемых сістэмай адукацыі". Якая ў нас сістэма і магчымасці прыўладных асімілятараў добра вядома па статыстычных звестак.

У расейскім законе адназначна гарантуецца права на атрыманне адукацыі на роднай мове. Грамадзяне Расейскай Федэрацыі маюць права на атрыманне адукацыі на роднай мове, а таксама на выбар мовы навучання. Правы грамадзян на атрыманне адукацыі на роднай мове забяспечваюцца стварэннем неабходнай колькасці адпаведных адукацыйных установ, класаў, груп, а таксама ўмоў для іх функцыянавання (арт.6, п.2).

Дзяржава ў адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі і пагадненнямі аказвае садзеянне ў атрыманні адукацыі на роднай мове прадстаўнікам народаў Расейскай Федэрацыі, якія жывуць па-за яе тэрыторыі (арт.6, п.4).

Пытанне вывучэння дзяржаўных моў рэспублік у складзе Расейскай Федэрацыі рэгулюецца заканадаўствам гэтых рэспублік (арт.6, п.6).

Дзяржава аказвае дапамогу ў падрыхтоўцы спецыялістаў для здзяйснення адукацыйнага працэсу на мовах народаў Расейскай Федэрацыі, якія не маюць сваёй дзяржаўнасці (арт.6, п.7).

Слова да распрацоўшчыкаў "беларускага" праекту: вы ж закон Расеі, як і іншых краін выкарыстоўвалі? Чаму ж вы ўзялі не прагрэсіўныя, цывілізаваныя нормы, а толькі тое, што працуе на выкананне і здзяйсненне інтэлектуальнага злачынства? Праект А. Лукашэнкі, але ж распрацоўвалі яго спецыялісты. Як жа трэба страціць пачуццё адказнасці інтэлігента, юрыстазаконатворца, педагога, настаўніка, маці, бацькі, бабулі, дзядулі – каб стварыць праект закона, які будзе сякерай у руках забойцаў беларускага этнасу. Як зразумець гэтую нялюдскасць?

*Прафесар*
*Мікола Савіцкі.*

№ 18 (506) 2 ТРАЎНЯ 2001 г. Наша слова

# Ад родных ніў – родным людзям

Вось і камяністы Нью-Ёрк. Як родны сустракае нас Сцяпан Міровіч. Мы, гэта невялікі гурт фальклёру, які запрасіў Беларуска-Амерыканскі Грамадскі цэнтр г. Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі на фестываль Беларусаў Амерыкі. У цудоўны прыгожы парк, дзе на ўзвышшы стаіць царква Св. Еўфрасінні Полацкай, шмат народу з'ехалася каб паспяваць, патанчыць, успомніць беларускія абрады.

Шчырым прывіталь-ным словам адчыняе фестываль прэзідэнт Беларуска-Амерыканскага Грамадскага цэнтра Жорж Нумчык, гучыць беларуская музыка, спявае сямейнае трыа Валі Пархоменкі, што як і Дзіма Яўтуновіч,




*Царква Святой Еўфрасінні Полацкай у г. Саўт-Рывер.*

вядомы на Беларусі кампазітар, жыве ў ЗША.

Па розных прычынах апынуліся нашы землякі далёка ад Радзімы але шануюць наша роднае беларускае слова, матуліну песню, ладзяць усе святкі беларускія ў сябе: Каляды, Купалле, Вялікдзень, Саракі, Гуканне вясны, збіраюцца разам на сямейныя пікнікі, вяселлі, дні нараджэння, хрэсьбіны.

Нас сустрэлі з вялікай цікавасцю. Музыка гарманіст Саша Драніч, мой сын Антон і я далі праграму родных напеваў, музычна- танцавальных мініяцюр, абрадавых замалёвак, а яшчэ мы тут на месцы пяклі бульбяныя дранікі з салам і цыбуляй, частавалі прысутных, шмат хто прасіў яшчэ, казалі: мы пяком, але такія смачныя ў нас не атрымоўваюцца. Позна



*Фальклёрны гурт Мікола Котаў, Антон Вераб'ёў і Саша Драніч у Нью-Ёрку каля прыстані Статуі Свабоды.*



*Каля хаты ў беларуса Шуры Васанскага.*

ноччу фестываль яшчэ ў разгары, а мы то полечку, то "Лявоніху", а то разам заспяваем са Стасяй Сумскіх, Зосяй Бычкоўскай, Соняй вялікай і малой. Сцяпан Навумчык з жонкай Марусяй, паляшукі Сцяпан Страпко, Стась Дашкевіч, Шура Васанскі, Людміла Коліч, Ліза і Валодзя Літаровічы, Міхась і Валя Сенькі, Джымі Мяжэвіч, Бабій Сардэчны, Валодзя Валадкевіч, Марыя Шостак і іншыя падхапілі:

*- Ой, братка беларус,*
*Чаму ў цябе сівы вус?*
*- Ой рана пасівеў,*
*Бо я долечкі не меў.*

*- Ой, братка беларус,*
*На руцэ мазоль што гуз!*
*- Так я цяжка працаваў,*
*Рук сваіх не шкадаваў.*

А потым танчылі, багата было добрых слоў, як назваў мяне доктар гістарычных навук Старшыня фундацыі імя Пётры Крычэўскага Янка Запруднік і яго жонка Надзя "Развясёлы танцаўнік".



*У час фестывалю ў Саўт-Рыверы. Разам з сямейным ансамблем Валі Пархоменкі.*

Закончыўся фестываль, але нас пачалі адразу запрашаць наведаць царкву Святой Жыровіцкай Божай Маці, дзе так сама нас шчыра віталі ўсе прысутныя і тыя, хто нас ужо ведаў, і хто толькі пазнаёміўся. Сям'я Дубчоў, Марыся і Іван Азаркі, мы вельмі ўдзячныя ўсім, хто нас ведае і хай пашле ім Бог моцы і здароўя.

Нас запрашалі ўсюды на сямейныя святы, нас віталі з беларускай праграмай і рускія клубы "Родина", "Ровафарм". Мы спявалі і танчылі на Брайтэн Біч і Брадвэі Нью-Ёрка і ўсюды чулі толькі падзякі за часцінку Радзімы, нам заўсёды і ва ўсім дапамагалі.

Калі зламаўся наш гармонік, думалі прапалі, але дзе там, знайшоўся беларус майстра "Залатыя рукі" Сяргей Дубоўскі і яго дапамагатая па жыцці ласкавая жонка Ліда, ноч не спаў Сяргей, але зрабіў гармонік, а яшчэ падарыў баян і акардыён на якім ужо націскае на клавішы Палінка-вясялінка Вараб'ёва, і падумалась вось як лягчэй жыць талакой дапамагаюць адно, аднаму і справы лепш ладзяцца.

По прыгожаму квяцістаму гораду Саўт-Рыверу, дзе шмат жыве беларусаў, нам заўсёды хацелася хадзіць пешшу, ідзеш па вуліцы, а тут на прыгожай беларускай мове чуеш: "Хлопцы, заходцце ў хату",- гэта святар царквы Сцяпан Навумчык запрашае, а там ужо жонка завіхаецца, вось ужо і скварка, і чарка, а галоўнае добрыя вочкі і бацькоўская цяплыня душы, мы ў роднай хаце.

Бацьку я ніколі не бачыў, бо ён загінуў у час вайны. А ў Сцяпана мне падалося, што ён мой бацька ці старэйшы брат, так і засталося ў сэрцы -- мой родны.



*У час фестывалю ў Саўт-Рыверы.*

Вось запрасіў да сябе Васанскі Шура, (вельмі любіць каб называлі яго Шура, так у дзяцінстве запомніў яго называла маці). Прыехалі, на хаце вісіць сцяг Амерыкі і беларускі бел-чырвона-белы, і жыццё ў дастатку. Цудоўны басейн, але ёсць і маленькі хлеўчык дзе жывуць дзесяць курак, агародзік, растуць беларускія памідоры.

А Стася Сумскіх запрасіла мяне з сынам пажыць у яе дома, як родная маці рыхтавала ежу, збірала ў дарогу.

Не лёгкі шлях быў у нашых землякоў, усё будавалі сваімі мазалямі і потам, але, як бы не было цяжка, заўсёды памяталі Радзіму, наша слова, лясы, лугі, цялушак што пасвіліся за роднай вёскай, бусліны клёкат.



*У час фестывалю ў Саўт-Рыверы. "Лявоніха" з амерыканскай беларускай.*



*Соня Малая і Соня Вялікая ды Ліда Дубоўская ля Беларуска-Амерыканскага цэнтру.*

***Ох, давялося ў жыцці***
***Цяжары пераносіць,***
***І слава Богу! Дапамог***
***Жыццё прайсці праз кручы.***

***Збярэмся разам, мы ў час,***
***І ўсё паўспамінаем,***
***А сваю родну Беларусь***
***У сэрцы мы трымаем.***

Тых, хто прыязджае ў Амерыку, вітаюць шчыра нашыя землякі і словам і справай дапамагаюць.

Мы вельмі дзякуем родным беларусам у замежжы што падтрымалі нас у стварэнні тэатра фальклору з дзецьмі Чарнобыля, нам далі грошы на строі музычныя інструменты. Выступаюць дзеці з родным словам, абрадам на Беларусі і дзякуюць за добрыя, чулыя сэрцы.

Закончыўся фестываль, але не скончылась наша сяброўства. Яно назаўсёды.

***Мікола Котаў,***
***навуковы супрацоўнік НДЛ беларускага фальклору БДУ.***





## БЕЛАРУСКІ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ ЛЯ РАТУШЫ ТАРОНТА

Сёлета прыпадаюць 35-я ўгодкі Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (ККБК).

Сяння пры нагодзе сьвяткавання 83-х угодкаў 25 сакавіка, ды 35-х угодкаў ККБК, распавядзём пра 31-гадовую традыцыю ўзнімання на ўгодкі 25 сакавіка ля Ратушы Таронта беларускага бел-чырвона-белага сцяга.

У 1970, на чацвёртым годзе свайго існавання, ККБК пад старшынствам др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча звярнуўся да Сіты Гол Таронта з просьбай узняць на 25 сакавіка ля ратушы Таронта беларускі бел-чырвона-белы сцяг ды абвесціць у Таронта Дзень 25 сакавіка Днём Незалежнасці Беларусі. Дазвол быў дадзены.

23 сакавіка, 1970 году, дэлегацыя ККБК у складзе старшыні др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, двух сакратароў: англамоўнага – Лын Кулеш і беларускамоўнага Раісы Жук-Грышкевіч ды Антона Маркевіча перадала Дырэктару гарадской маёмасці, сп. Вудынгтон, беларускі бел-чырвона-белы сцяг, памерам 90 інчаў даўжыні і 45 інчаў шырыні, дзеля ўзняцця яго ў дзень 25 сакавіка ля Ратушы Таронта. Сп. Антон Маркевіч сфатаграфаваў цырымонію перадачы беларускага бел-чырвона-белага сцяга сп. Вудынгтон. Гэты гістарычны здымак змешчаны на 532 бачыне кнігі: "Жыцьцё Вінцэнта-Жук-Грышкевіча". І той самы беларускі сцяг перахоўваецца ў Сіты Гол па сённе і 24 сакавіка, 2001, у 7 гадзін раніцы быў ўзняты ля Сіты Гол Таронта.

Таго-ж 23 сакавіка, 1970 году, дэлегацыя ККБК атрымала ў канцылярыі мэра Таронта тры копіі пракламацыі абвешчання 25 сакавіка Днём Незалежнасці Беларусі для апублікавання яе ў Тарантоцкай прэсе.

І гэтак, пракламацыя, што абвяшчала Wednesday, MARCH 25TH, 1970, " BELARUSSIAN INDEPENDENCE DAY" была змешчана, як платная публікацыя (каштавала 80.00 даляраў) у газэце "Glode and Mail" 25 sakavika, на другой яе бачыне і апрача таго ліст К. Акулы на тэму сьвята. "Таронта Даілі Стар" змясціла кароткую зацемку аб нашым сьвяце і пракламацыю Мэра Таронта 24 сакавіка, апрача таго пракламацыя перададзена праз радыё СФРБ.

У сераду, 25 сакавіка, 1970 году, ад усходу да заходу сонца ўзвіваўся ля ратушы Таронта першы раз у гісторыі Канады беларускі бел-чырвона-белы сцяг. Падвечар сабраліся на Натан Філіп Сквэры каля Ратушы беларусы Таронта і ваколіц палюбавацца сваім сцягам, што так вольна і прыгожа развіваўся над сталіцай Антарыя, што гаварыў свету аб няўміручасці ідэі 25 сакавіка – ідэі Незалежнасці Беларусі. Гаварыў аб аддпнасці гэтай ідэі беларусаў, якіх эміграцкі лёс закінуў за мора ў Канаду.

Гістарычны здымак, выканання Юркі Акулы, з узнятым першы раз у гісторыі Канады на 25 сакавіка, 1970 г. ля Ратушы Таронта беларускім бел-чырвона-белым сцягам, ды групай беларусаў задакументаваны на 535 бачыне кнігі "Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча". А на наступнай бачыне здымак з бел-чырвона-белым сцягам ля ратушы Таронта 25 сакавіка, 1971 году.

Клопатам пра тое, каб кожны год на сьвята 25 сакавіка, ля ратушы Таронта быў узняты беларускі бел-чырвона-белы сцяг амаль праз 30 год займаўся былы заступнік старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады Паўлюк Пашкевіч, што жыве цяпер у Оўквіле. Сёлета клопат гэты пераняла Старшыня ККБК. Беларускія таронтанцы з удзелам старшыні ЗБК Надзеі Дробінай сабраліся ў суботу 24 сакавіка на Філіп Натас плошчы, каб палюбавацца сваім родным бел-чырвона-белым сцягам, што вольна і горда ўзвіваўся над мільённым горадам Таронта, над гасціннай дэмакратычнай краінай Канады.

У нядзелю 25 сакавіка 2001, бел-чырвона-белы сцяг разам з канадыйскім узвіваўся ля Беларускага Рэлігійна-Грамадскага Цэнтру ў Таронта. Ужо зраніцы ў царкве Св. Кірылы Тураўскага Першагерарх БАПЦ Мітрапаліт Уладыка Мікалай адпраўляў Св. Літургію і Малебен за Беларусь, сказаў гарачую рэлігійна-патрыятычную казань. Маленні закончыліся агульнаадсьпяваным гімнам "Магутны Божа".

Пасля палудня - урачысты Сход, які вяла старшыня ЗБК Надзея Дробіна. Яна зачытала прывітанне Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы, лісты прывітанняў ад беларускіх арганізацыяў з усяго сьвету. Асабіста вітала сход старшыня ККБК др. Раіса Жук-Грышкевіч. Ключавы даклад меў сябра Галоўнай Управы ЗБК Ігар Цітавец. Прамаўляў Кастусь Акула. Сход прыняў Рэзалюцыю зачытаную др. Русланам Качатковым, Маладзенькая Маньkoўская сказала верш Максіма Багдановіча "Зорка Венера". Вучаніца сярэдняй школы Паўліна Ціханоўская пад музыку свайго бацькі Віктара Ціханоўскага прафесійна выканала вязанку беларускіх народных танцаў, сярод якіх трыўмфавала незаменная "Лявоніха". Урачыстасці закончыліся гімнам: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

*Др. Раіса Жук-Грышкевіч,старшыня.*

## Больш як 1270 разоў у Бібліі ўпамінаецца слова – "народ"

*"Усе народы, Табою створаныя,юпрыйдуць і схіляцца перад Табою, Госпадзе, і праслаўляць імя Тваё" (П 85;9).*

Слова ***народ, народы, народамі...*** ў Бібліі ужываюцца больш за 1270 разоў. Ці ёсць яшчэ падобнае выказванне, якое б так часта сустракалася на старонках Святога Пісання? Чаму Сам Бог і прарокі Божыя шматразова скарыстоўвалі слова ***народ, народы***. Давайце паразважаем над гэтым, бо сэнс гэтых слоў вельмі вялікі. У кнізе Быццё 35; 11 запісна: "І сказаў яму (Якаву) Бог: Я Бог усемагутны; пладзіся і памнажайся; народ і мноства народаў будзе ад цябе і цары возьмуць пачатак ад роду твайго". Мы з Вамі бачым, што ад пачатку ў планах Божых было з'яўленне народаў і засяленне імі зямных абшараў. Гасподзь, хто Творца ў тварэнні сваім непаўторны, пажадаў, каб розныя народы жылі на зямлі. Як кветкі непадобны адна на адну сваімі пялёсткамі, пахам, колерам, а разам складаюць чароўную прыгажосць, так і народы багаццем сваёй культуры, звычаяў, Богашанаваннем робяць разнастайным наш агульны зямны дом. Так што ж такое народ? Чым ён характэрызуецца? Звернемся да Бібліі Быццё 10:5 "Ад гэтых насяліліся астравы народаў у землях іх, кожны на мове сваёй, па плямёнах сваіх у народах сваіх". Галоўная, ключавыя словы:

1. Насяліліся астравы – гэта тэрыторыя.
2. Кожны на мове сваёй – гэта мова.
3. Па плямёнам – гэта лучнасць людзей.

Вось тры галоўныя складальнікі быцця і сутнасці народу: тэрыторыя, мова, лучнасць (культура, гісторыя). Стаць і быць народам на зямлі – вялікі дар і багаслаўленне ад Госпада Бога. І гэты дар трэба цаніць і шанаваць. Дзякуй Богу, што мы з Вамі – народ і, менавіта, Беларускі народ. Маем сваю тэрыторыю, прыгожую мілагучную мову, багатую гісторыю і самабытную культуру, але на жаль, бывае і так, што людзі трацяць гэты каштоўны і дарагі дар ад Бога – быць народам на зямлі. І гэта адбываецца тады, калі губляецца жыццёвая прастора народа, знікае яго мова і гісторыя краіны. Тады пачынае знікаць і сам народ. Рассейваецца сярод іншых народаў і становіцца чужынцам ці іншаземцам нават на сваёй адвечнай зямлі. І можна ўявіць, які гаротны лёс і цяжкае жыццё ў такога народа. І Біблія на сваіх старонках кажа пра лёс народа, які знікае альбо знік. Напрыклад, кніга Другазаконне 14; 21; ці ў кнізе 2 Парліпаменон 2; 17-18 "І падлічыў Саламон усіх чужынцаў, якія былі ў зямлі Ізраільцян... і зрабіў ён з іх семдзесят тысяч насільшчыкаў і восемдзесят тысяч каменечасальшчыкаў на гарах, і тры тысячы шэсьцот наглядчыкаў, каб яны прымушалі іх працаваць. І ў апакрыфічных кнігах Сірах 29; 27-31 распавядаецца пра людзей якія згубілі атрыбуты народу.



Царква "Благадаць" у Менску

Хрысціяне Беларусі, якія наведваюць касцёлы, храмы, цэрквы і малітоўныя дамы ды і ўсе людзі нашай краіны! Давайце разам захоўваць, берагчы і памнажаць тыя каштоўнасці, якія дадзеныя Богам беларускаму народу. Будзем стаяць у малітоўным праломе за свой народ, каб Беларускі народ стаў яшчэ і народам Божым, дзе Слова Божае было б законам для народа. А колькі працы ў нас, а якая вялікая ніва! Божа, багаславі нас!

*Еўтух Уладзімір, служыцель царквы "Благадаць".*

***У царкве "Благадаць" кожны панядзелак а 19 гадзіне адбываюцца беларускамоўныя набажэнствы. Запрашаем усіх неабыякавых да лёсу роднай краіны. "Хадзеце, сьпяваць будзем Госпаду, выслаўляць скалу збаўлення нашага!" Пс.95:1***

Х.т. 2166727.
Тэл. царквы 2709701.

## Алімпіяда 2001

Любыя паездкі заўсёды захапляюць, уражваюць, пакідаюць прыемныя ўспаміны, так жа сама, як і падзеі, як і людзі, з якімі сустракаешся, знаёмішся.

Нядаўна вучаніцы школы імя Ф.Скарыны г.Вільні Дашкевіч Таццяна і Маркевіч Рэната вярнуліся з г. Маладзечна, дзе адбылася Рэспубліканская алімпіяда па беларускай і рускай мовах. Інтэлектуальныя спаборніцтвы пакілаці прыняць удзел у "барацьбе" каля 200 удзельнікаў – вучняў 9-11 класаў.

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь запрасіла нашых вучняў да ўдзелу ў алімпіядзе па беларускай мове. Сёмы год дзякуючы гэтай установе мы разам з беларускімі школьнікамі можам удзельнічаць у моўных конкурсах.

А папацецца-такі даявлося.

Алімпіяда пачалася ўрачыстым адкрыццём ў Маладзечанскай школе-гімназіі №6. Нас віншавалі, для нас сьпявалі, чыталі, ігралі... Сапраўды прыемна! Канцэрт удаўся на славу! А пасля была цяжкая інтэлектуальная праца. У першы дзень "спаборніцтваў" – дыктант і водгук на мастацкі твор.

Як хацелася зазірнуць за дзверы, хоць нечым дапамгчы, але нельга. Кожны мог спадзявацца толькі на сябе, на свой розум.

Другі дзень – не менш напружаны – паклікаў да лінгвістычнага конкурсу. Часу хапала (аж 4 гадзіны), але ж і 10 напростых заданняў трэба было зрабіць. І нарэшце ў трэці, апошні, дзень чакала канкурсантаў вуснае выказванне. Гучалі словы аб самым запаветным, дарагім, аб набалелым, аб незабыўным...

Прыемна і ганарова адчуваць сябе сярод беларускіх алімпійцаў, кранае тое, што ты таксама маеш магчымасць пабыць тут, паспрачацца ў ведах, заявіць пра сябе.

І зноў дарога кліча-вабіць у свае абдымкі, кліча да сябе радзіма.

Што ж бывай, Рэспубліканская, да новых сустрэч!

*Алена Базюк, настаўніца роднай мовы школы імя Ф. Скарыны.*

## Паездка на радзіму Ф. Багушэвіча

У сонечную вясеннюю раніцу мы з настаўнікамі школы імя Ф. Скарыны паехалі на радзіму Ф. Багушэвіча. Першым месцам прыстанішча была вёска Жупраны, дзе ёсць школа, што носіць імя паэта. Мы выступалі там з канцэртам, пасля наведалі школьны музей; тут захаваліся кнігі, рэчы, малюнкі, на якіх Ф. Багушэвіч паказаны ў час хваробы. Гэтыя ілюстрацыі выкананы яго сынам.

Завіталі мы і ў касцёл, дзе таксама знаходзіцца партрэт вядомага беларуса, наведалі могілкі. Там пакінулі свой след – кветкі.

Наступнай мясцінай, дзе мы пабывалі, была вёска Кушляны. Тут паэт правёў большую частку свайго жыцця. Здзівіў нас вялікі будынак, дзе пісаў свае вершы і іншыя творы пісьменнік. Гэта музей. Збудаванню цяпер 105 год. Яшчэ захаваўся хлеў каля хаты, а таксама тут жа растуць дубы, якім зараз па 103 гады.

Ля хаты ёсць іншыя дрэвы, кусты. Як сімвал таго, што паэт любіў хадзіць на паляванне.

Некалі ў музеі былі рогі лася, забітага Ф. Багушэвічам. але цяпер яны знаходзяцца ў Ашмянскім краязнаўчым музеі.

Вось такой запомнілася нам экскурсія на радзіму Ф. Багушэвіча. З задавальненнем мы вярталіся дадому.

*Каця Варановіч, вучаніца 5 класа школы імя Ф. Скарыны г.Вільні.*

Рок –SOS

## Альтэрнатыва самім сабе?

Калектыўны сябар ТБМ імя Ф. Скарыны – маладзёвая выдавецкая ініцыятыва БМА – груп на гэты час выдала тры зборнікі беларускамоўнай рок-музыкі “Вольныя танцы”. У назвах дзвюх апошніх сустракаецца слова “альтэрнатыва”: “Вольныя танцы: новая альтэрнатыва” і “Вольныя танцы: альтэрнатыва by”. Але, быццам па іроніі лёсу, альтэрнатыўнага і ў музычным, і ў ідэалагічным сэнсе больш як раз там, дзе гэтае гучнае слова адсутнічае – на першай кампіляцыі БМА-груп “Вольныя танцы: слухай свае!”




Першанец радаваў свежымі, задорнымі хітамі “NRM” і “Мясцовага часу”, апрацоўкі беларускага фальклору “Зьніча” ў стылі paqan-deatl-metal, панк-рокавымі споведзямі гуртоў “Жыгімонт Ваза” і “Daviation”...

І вось новы дыск вытворчасці БМА-груп хутка папоўніць фанатэкі аматараў беларускага рока. Але ці адпавядае яго накіраванасць заяўленай “альтэрнатыўнасці” альбо гэта камерцыйна-рэкламны трук, каб завабіць патэнцыйных пакупнікоў?

На першы погляд так яно і ёсць: самы “рэзкі” тэкст з істэрычным рэфрэнам “Забі амерыканца” гурта “Нейра Дзюбель”, думаем, будзе да спадобы сённяшнім уладам, пагразшым у антызаходняй рыторыцы. І гэта ўсё, на што вартыя беларускія рок-музыканты? Тады ўспомнім, як пасля арыштаў і рэпрэсій супраць чэшскіх рок-музыкантаў і пачалася знакамітая палітычная з'ява, якая прывяла да “аксамітнай рэвалюцыі” у гэтай краіне – “Хартыя-77”. Гледзячы па накіраванасці рэпертуару дыска БМА-груп, улады могуць не турбавацца: ні пра якую мастацкую палітычную альтэрнатыву размовы не ідзе.

Магчыма, альтэрнатыўнасць дыска палягае ў іншай плоскасці – музычнай? Таксама, не! Самыя альтэрнатыўныя гурты беларускай рок-сцэны прадстаўлены ці ды-джэйскімі танцавальнымі мікстамі (“NRM”), ці творамі, з якім слухачы ўжо знаёмыя (“Уліс”, “Крама”). А вось “пракінутых” альтэрнатыўшчыкаў засталося за бортам новага дыска вельмі шмат: “Сонца Мао”, “Зьніч”, “Млын”, “Правакацыя”.

Як тлумачылі на выніковай прэс-канферэнцыі самі выдаўцы – новы дыск “Вольныя танцы: альтэрнатыва by” ёсць, акрамя іншага, альтэрнатывай рэпертуарнай палітыцы Беларускага радыё і тэлебачання. FM-радыёстанцый, усяго мінкульта, для якіх беларускамоўныя рок-выканаўцы, ды і сама беларуская мова з-за палітычнай кан'юктуры становяцца непажаданымі.

Але ці ўмацуюць пазіцыі беларускай мовы такія выканаўцы, кшталту гуртоў “Цягні-Талкай” ці больш таленавітага “Lond Play”, якія раз-пораз пачынаюць свае выступы словамі: “Прывітанне! Извините, больше по-белорусски не знаю ничего”. Вось дзе сапраўдная ганьба і такое адбываецца з канцэрта ў канцэрт на “Вольных танцах”...

Але было б несправядлівым вінаваціць выдаўцоў у тым, што на дыску прадстаўлены маладыя кан'юнктуршчыкі. На новых “Вольных танцах” шмат твораў, якія могуць скласці гонар новай генерацыі. Маем на ўвазе сенсацыю гэтага кампакт-дыска і прэзентацыі – гурт “Імпэт”. Слухачоў зачаравалі галасы салістак гурта Даны Жвалік і Вольгі Варыкіш, кампазіцыйная завершанасць твораў, неверагоднае для маладога гурта еўрапейскае гучанне і ... выдатная беларуская мова ўдзельнікаў.

Парадуюць слухачоў творы гуртоў “Exist” і “Цмокі”. Першы калектыў пераадолеў схематызм у музыцы і прадстае як годны ўзор беларускага пост-гранжа. “Цмокі” ж захапляюць меладызмам і амаль сфармаваўшымся музычным стылем – сумессю гранжа і брыт-попа...

Нейк “неканкрэтна” прадстаўлены на дыску стыль, у якім беларусы традыцыйна лідзіруюць – фолк-рок. Побач с “Зялёным дубочкам” гурта “UR'IA” у электроннай версіі Крыстафера Іхохо, мы можам уразіцца сучасным беластоцкім фолк-рокам гурта “The Dzviery” – кампазіцыяй “Чайнічок”, альбо фолькстылізацыямі “Postscriptum” ці маладога калектыву з Віцебска “Зелень дарог”. І ў той жа час ідылічную фолк-карціну “упрыгожванне” квазіфальклор калгасна-савецкага перыяду (з нязменным “ліпездрысчаствам”), што прапануе берасцейскі “Сад”. Што ж, калі гэта і ёсць альтэрнатыва, тады гэта альтэрнатыва нармалёвым беларускім рок-выканаўцам, якія засталіся па-за гукавымі дарожкамі новага дыска.

Тупік, у які зайшлі са сваімі густамі і прыхільнасцямі выдаўцы БМА-груп і праекта “Вольныя танцы” добра зразумелы і відавочны. Але ці ёсць воля ў іх выйсці з яго і нешта змяніць на карысць сапраўднай музыкі і мастацкага густу? Гэта пакажа час.

Пакуль бачна, што выдаўцы навінкі хацелі зрабіць, як лепей, а атрымалася, як заўжды: дыску не хапае ні музычнай, ні літаратурна-тэкставой, ні камерцыйнай вартасці. Таму, верагодна, ініцыятыву “Вольных танцаў” могуць перахапіць тая ж камерцыйная фірма “Бульба-рэкардз”. Тады ўжо пра альтэрнатыву ў любым выглядзе можна забыцца назаўсёды.

*Анатоль Мяльгуй.*

# “СПЕВЫ ПРА ДАЎНІХ ЛІЦЬВІНАЎ ДА 1434 ГОДА”

## І. ПРА КЕРНА, 1040 г.

**Словы Я.Чачота** **Музыка Л. Махнача**
**Пераклад С. Судніка**

Керн (памёр у 1097 г.) - легендарны ліцьвінскі князь, сын Куна (Кунаса), унук Палемона, заснавальнік першай сталіцы Літвы Кернава. Лінгвістычная форма назвы Кернаў гаворыць пра яе славянскае паходжанне. Гімбут - малодшы брат Керна, князь Жмудзі. Паята - адзіная дачка Керна, якую ён выдаў замуж за Жывібуда, ізноў жа славянскае імя. Намініcтыка гэтай балады міма волі прыхільнікаў жмудскай тэорыі падкрэслівае славянамоўнасць (беларускамоўнасць) першых легендарных ліцьвінскіх князёў. Рэальна Кернаў, калі і існаваў на самай справе, то быў галоўным, а можа і адзіным горадам аднаго з ліцьвінскіх, ужо славянізаваных, радоў.

**Andante maestoso**



1. Перш, чым яс - на сон-ца ўзы-дзе, ноч зям-лю за - хі - не,
2.
5. 6. 9.



Перш, чым ска-жуць аб на - ро - дзе, ён у цем-ры гі - не.



хо - дзіць та-та-та та а - а



гой та-та-та та а - а



3. Кер - наў Керн уз - во - дзіць бу - дзе по - бач Віл - лі-
4. 7. 8.



рэч - кі, Керн Літ - ве, а Гім - бут Жму - дзі



лад да - лі ад - веч - ны.
пасля 9-га



-рыч - ны. та - та - та та - та - та

Перш, чым ясна сонца ўзыдзе,
Ноч зямлю захіне,
Перш, чым скажуць
аб народзе,
Ён у цемры гіне.

Так з Літвой імглой пакрыты
Дзеі тых стагоддзяў,
Ды ад Керна і Гімбута
Нам святло даходзіць.

Кернаў Керн узводзіць будзе
Побач Віллі-рэчкі,
Керн Літве, а Гімбут Жмудзі
Лад далі адвечны.

Перуна тут шанавалі,
Зніч-агонь палілі,
Дзікай мужнасцю буялі,
Смела ў бой хадзілі.

Аж да Полацка
ў Падзвінні
Людства ваявалі,
Латышы ўзамен ліцьвінаў
Дома рабавалі.

Па вяртанні ўлёт напалі
На чужых ліцьвіны
І нявольнікаў пагналі
Пад свае хаціны.

Керн
у грознай бітве згінуў,
Люд аплакваў страту,
Ён нашчадкаў не пакінуў
Акрамя Паяты.

На Дзяволтве пахавалі,
На гары. Дубочкаў
Там дуброву насаджала
Ля магілы дочка.

Гай дубовы разрастаўся,
Тлеў агонь там знічны,
Для ліцьвінаў пачынаўся
Шлях іх гістарычны.


Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеней інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 30. 04. 2001 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 1228.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 242 руб., 3 мес.- 726 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.